# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 23 (588) ГОД XII 4 ЧЭРВЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## НАБОР У БЕЛАРУСКІЯ ЛІЦЭІ

Як мы ўжо паведамлялі, ідзе набор вучняў у беларускія ліцэі Бельска і Гайнаўкі.

Яшчэ раз прыпамінаем, што ад кандыдатаў у гэтыя ліцэі патрабуюцца наступныя дакументы: заява (паданне), аўтабіяграфія (жыцёрыс), метрыка нараджэння, пасведчанне школы, што кандыдат з'яўляецца вучнем 8-га класа, пасведчанне з 7-га класа, пасведчанне аб здароўі (з найбліжэйшага пункта аховы здароўя) і два здымкі.

Тыя, хто закончыў 7 класаў у мінулых гадах і не вучыўся далей і не закончыў 17-ці год, таксама могуць паступіць у беларускія ліцэі.

Абавязковыя экзамены з польскай і беларускай моваў і матэматыкі.

Тыя вучні, якія не вучыліся беларускай мовы, будуць здаваць экзамены толькі з польскай мовы і матэматыкі.

Беларускую мову будуць здаваць у снежні пасля падрыхтоўчага курса.

Выдатнікі могуць быць прыняты без экзаменаў.

Набор у беларускія ліцэі заканчваецца 20 чэрвеня г. г. Раім не адкладаць і як найхутчэй злажыць у гэтыя ліцэі ўсе патрэбныя дакументы.

## ІНТЭРВ'Ю З ВІТАЛІЕМ ТКАЧЭНКАМ

10 мая г. г. дваццаць веласіпедных каманд адправілася на трасу дваццатай юбілейнай Велагонкі міра.

Напярэдадні гэтай найбольшай у свеце велагонкі аматараў прабіраемся праз натоўп „паляўнічых" на аўтографы да гасцініцы „Варшава", у якой размясціліся ўсе веласіпедныя каманды. На чацвёртым паверсе жыве шматнацыянальная каманда СССР. У яе складзе прадстаўнікі РФССР — Генадзі Лебедзеў і Аляксей Пятроў, татарын — Гайнан Сайдхужын, прадстаўнік Узбекістана — Юры Помінаў, Латвіі — Рэйнгольс Кальнекс і прадстаўнік Савецкай Беларусі — Віталій Ткачэнка.

Стукаем у дзверы пакоя 425. Віталій Ткачэнка размясціўся тут з Юрыем Помінавым. Яны толькі што вярнуліся з прыёму ў Савеце Міністраў, наладжаным у гонар юбілейнай велагонкі. Знаёмімся з 29-цігадовым, сярэдняга росту брунетам, беларусам - мінчанінам, і яго сябрам з Ташкента. Просім тав. Ткачэнку расказаць аб яго спартыўных дасягненнях. Наш субяседнік аказаўся надзвычай скромным, неахвотна гаворачым пра сябе. Тады ставім пытанні. З адказаў на іх даведваемся, што тав. Ткачэнка велагонкай займаецца ўжо шэсць гадоў. Працуе ён інструктарам фізкультуры ў Рэспубліканскім таварыстве „Чырвоны сцяг" у Мінску, якое аб'ядноўвае завадскіх рабочых. У маі — чэрвені мінулага года прымаў удзел у велагонцы ў Англіі, дзе на 2500 кіламетравай трасе заняў 5 месца. У кастрычніку гэтага ж года здабывае першынства СССР і залатую медаль. У красавіку гэтага года выйграў пяцідзённыя спаборніцтвы СССР у Сочы, мэтай якіх была адборка кандыдатаў на велагонку міра. Звяртаем увагу на здорава скалечанае сцягно мінчаніна. Гэта памятка з Бельгіі, — адказвае ён, — дзе прымаў удзел у шматэтапнай велагонцы.

На нашае пытанне: на каго ў савецкай камандзе можна найбольш разлічваць — наш субяседнік падае прозвішчы Пятрова, Лебедзева і Сайдхужына. Калі мы са свайго боку дабаўляем яшчэ прозвішча Ткачэнкі — ён станоўча пярэчыць: мы з Юркам — навічкі, дэб'ютанты і на нас за шмат разлічваць нельга. Зробім усё магчымае. Рыхтаваліся да гэтага мерапрыемства салідна. Маем за сабою каля дзесяці тысяч трэніровачных кіламетраў. Адзін толькі Сайдхужын пасля нечаканай смерці бацькоў спыніў трэніроўку.

Апошняе наша пытанне датычыла прадказання: хто будзе лідэрам юбілейнай Велагонкі міра? На гэтае пытанне не адказаў нам ні тав. Ткачэнка, ні яго сябар Помінаў. — Мы не прагназуем, — сцвердзілі яны, — моцных, таленавітых веласіпедыстаў шмат у гэтым магутным мерапрыемстве, канкурэнцыя вялікая, барацьба будзе цікавая і цяжкая.

Пераможцам акажацца найбольш таленавіты і наймацнейшы, які найлепш вытрымае ўсе цяжкасці і нягоды ад старту ў Варшаве да мэты ў Празе.

Дзякуем за размову і развітваючыся жадаем „квадратных колаў", што абазначае пажаданне найлепшых поспехаў.

Віктар Швед



ДЗІЦЯЧАЯ РАДАСЦЬ.

### УВАГА, НАСТАЎНІКІ І ВУЧНІ!

## Навуковая дапамога на 1967/68 гады

Ідучы насустрач патрабаванням школ, ад верасня г. г. „Ніва", як і ў гэтым годзе, будзе друкаваць дапаможныя школьныя матэрыялы. Гэтым разам будуць гэта чытанкі з беларускай літаратуры для VI класа (новы, падрыхтаваны да друку падручнік) і матэрыялы да навучання роднай гісторыі для IV, V, VI, VII і VIII класаў. Тэмы будуць распрацаваны згодна з загадам міністра асветы з дня 23. XII. 1966 (загад друкаваўся ў „Ніве").

З увагі на важнасць матэрыялу (з іншых крыніц здабыць яго будзе нельга), усе вучні павінны загадзя зрабіць падпіску на „Ніву". Найлепш не спыняць падпіскі ў летнія месяцы.

У першым вераснёўскім нумары, пачынаючы друк вышэй успомненых матэрыялаў, змесцім таксама план на цэлы квартал.

Сустрэчы з землякамі

## У СЭРЦЫ ПОЛЬСКАЙ НАФТАХІМІІ

Прыязджаючага да Плоцка перш за ўсё вітае прыгожая, высокая набярэжная шырокай Віслы, а далей купалы гістарычнага кафедральнага сабора, які выглядае з зелені квітнеючых каштанаў. Нельга здзіўляцца, што гэты горад так любіў і часта тут прабываў вялікі польскі паэт Уладзіслаў Бранеўскі. Тут Плоцк курортны нічым не напамінаючы вялікага прамысловага цэнтра.

Але за горадам распалажыўся камбінат — Мазавецкі нафтаперагоначны і нафтахімічны камбінат. Гэта новая, сучасная панарама Плоцка. Пакуль што камбінат не мае спецыяльнай традыцыі. Усё тут новае, паўстае і разбудоўваецца. Што гэта плоцкі нафтахімічны камбінат? Можна вельмі многа пісаць аб тым, што ўжо ёсць, больш аб тым, што будзе. Для ілюстрацыі прывяду лікі. Плоцкі камбінат зараз перарабляе 2 мільёны 300 тысяч літраў нафты, да 1970 года разбудуецца ён на толькі, што будзе перарабляць каля 6 мільёнаў літраў, а поўная моц камбіната — перапрацоўка 9-ці мільёнаў літраў нафты ў год. Зараз усе нафтавыя заводы ў Польшчы (без Плоцка) перарабляюць каля адная мільёна літраў нафты. Тое, што паўстае ў плоцкім нафтакамбінаце, з'яўляецца новым, вынікае з творчай думкі вучоных інжынераў. Плоцкім інжынерам і тэхнікам няма дзе вучыцца, таму што падобнага тыпу камбінатаў і аб падобных размерах прадукцыі ў Польшчы няма. Каб здаць справу з велічыні і значэння камбіната — некалькі слоў аб тым, што тут прадукуецца. У першую чаргу розная гатунку бензін, машынная масла, аўтол, асфальт, а затым сыравіны да прадукцыі: фоліі, штучнай гумы, штучнага валакна, угнаенні і т.п. Усе эланы, нейлоны, розная тыпу модныя блузкі і світры, дзіцячыя цацкі і многа, многа іншых прадуктаў абапіраецца на нафтахіміі.

А сэрцам польскай нафтахіміі імення ўжо ёсць Плоцк. Будаўнічых гэтага камбіната сустрэнем з розных куткоў Польшчы. А рэпарцёр «Нівы» шукае сваіх, беластоцкіх землякоў.

Чырвоны аўтобус імчыць па новай дарозе. Абапал палі з зеленеючым збожжам. Прыдарожныя вёсачкі, як бы прымоўклі і захапляюцца кар'ерай аколіцы. Вось і камбінат. Накіроўваюся ў аддзел кадр. Хтосьці з пасажыраў прылучаецца да мяне і ідзем разам шукаць бюро. Мой спадарожнік думае, што я таксама як і ён сюды да працы. Але ў бюро нашыя дарогі разыходзяцца. Ён запаўняе патрэбныя дакументацыі, ад заўтра будзе працаваць у камбінаце, а я да кіраўніка аддзела ў пошуках нашых землякоў. Хацелася б як



(Працяг на стар. 4)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ЗАЯВА НАСЕРА

Прэзідэнт ААР **Гамаль Абдэль Насер** аб'явіў, што ААР закрыла заліў Акаба для ізраільскіх суднаў, а таксама для суднаў усіх іншых краін, якія дастаўляюць у Ізраіль стратэгічныя грузы. Гэту заяву прэзідэнт Насер зрабіў выступаючы на сустрэчы з камандваннем і прадстаўнікамі мясцовага саставу егіпецкіх ваенна-паветраных сіл, якая адбывалася ў палявым штабе ВПС на Сінайскім паўвостраве. Затым прэзідэнт і прысутныя назіралі манеўры ваенна-паветраных сіл.

### У ТАН У КАІРЫ

У сувязі з цяжкім становішчам, якое склалася за апошні час на Блізкім Усходзе, у Каіры прабываў Генеральны сакратар ААН **У Тан.** Пасля вяртання ў Нью-Йорк У Тан не захацеў адказваць на пытанні журналістаў і заявіў, што ў хуткім часе складзе савету бяспекі сваю справаздачу з паездкі.

### ФРАНЦЫЯ ПРАПАНУЕ

Французскі ўрад запрапанаваў скліканне нарады шэфаў чатырох найвялікшых дзяржаў (Францыя, СССР, ЗША і Англія) у сувязі з напружанай сітуацыяй на Блізкім Усходзе. Прапанову падтрымаў англійскі ўрад. Дыпламатычныя кругі ў Лондане сцвярджаюць, што французская прапанова прынята прыхільна і ў Вашынгтоне.

### ПАСЛАННЕ ПАПЫ

Занепакоены востраў сітуацыяй на Блізкім Усходзе папа **Павел VI** звярнуўся да ўсіх кіруючых дзяржавамі, каб стараліся мірным шляхам развязаць блізка-ўсходні крызіс.

### ГРЭЧАСКАЯ ХУНТА, А ЦАРКВА

Ваенная хунта ў Грэцыі пастанавіла **ўвясці свае парадкі ў грэчаскай праваслаўнай царкве.** Хунта паклікала новы свяшчэнны сінод і прыняла пастанову аб **адстаўцы ўсіх царкоўна-служачых, якім больш 80-ці гадоў.** У сувязі з гэтым зняты з прастола галава грэчаскай царквы 86-гадовы архіепіскап **Хрызастан.** Новым назначана былога капелана каралеўскага двара **Іеранімаса Кацоніса.**

Міма таго, што праваслаўная царква ў Грэцыі з'яўляецца дзяржаўнай — **колькасць членаў сінода з'яўляецца ўнутрана-царкоўнай справай.** І належыць толькі да рашэнняў усіх епіскапаў Грэцыі.

Хіба грэчаскім фашыстам сталі небяспечнымі нават старэйшыя служачыя праваслаўнай царквы?

### З КІТАЯ

Галоўнае палітычнае ўпраўленне кітайскай арміі пастанавіла ўвесці арыгінальныя знакі адрознення для салдат і афіцэраў. Мае гэта быць круглы значок з адбіткам Мао Цзэ-дуна і прастаўгольны значок з надпісам, які з'яўляецца копіяй напісанага ад рукі Мао лозунга — «Служыць народу».

### ПОДЗВІГ

**1900-ты амерыканскі сцярвятніцкі самалёт быў ужо збіты абаронцамі правінцыі Нгеан у ДРВ.** А.К.

## БССР

### НАРАДА

У Мінску адбылася рэспубліканская нарада работнікаў культуры, прысвечаная падрыхтоўцы да святкавання 50-годдзя Савецкай улады. На гэтай нарадзе меў даклад міністр культуры Беларускай ССР, М. Мінковіч.

Міністр Мінковіч гаварыў, між іншым, аб слабым развіцці мастацкай самадзейнасці ў некаторых аколіцах Беларусі.

— «Гэта адбываецца перш за ўсё таму, што аддзелы культуры... некаторых раёнаў не зразумелі значэння самадзейнай творчасці ў эстэтычным выхаванні працоўных. Паасобныя кіраўнікі раённых і гарадскіх аддзелаў культуры сваю безініцыятыўнасць і бяздзейнасць спрабуюць апраўдаць спасылкамі на адсутнасць кваліфікаваных кадраў... Але ці ў гэтым уся прычына? Думаю, што не».

### 900-ГОДДЗЕ

Свята беларускага мастацтва, прысвечанае 900-годдзю Мінска і 50-годдзю Савецкай улады, пачалося на Міншчыне. У суботні вечар 20 мая зазвінелі песні, загрымела ў клубных залах музыка. Больш чым у дваццаці месцах адначасова стартавала юбілейная дэкада **«Мінская вясна».**

### СУВЯЗІ

Шырокае супрацоўніцтва ўстанавілася паміж Беларуссю і краінамі сацыялістычнага лагера. Яно ахоплівае навукова-тэхнічныя сувязі ў рамках РВПГ, а таксама ўзаемаадносіны паміж вышэйшымі навучальнымі ўстановамі.

Беларускія выкладчыкі выязджаюць у навуковыя камандзіроўкі, а таксама для чытання дакладаў у Югаславію, ГДР, Венгрыю, Чэхаславакію і іншыя краіны. І так, рэктар Беларускага тэхналагічнага інстытута прафесар С. Віхроў чытае даклады ў Познаньскім інстытуце тэхналогіі драўніны, у Варшаўскай сельскагаспадарчай акадэміі, у Вышэйшай сельскагаспадарчай школе ў Кракаве, прымаў удзел у рабоце навуковай сесіі Польскага ляснога таварыства. У знак прызнання работ беларускага вучонага па драўніназнаўству яму быў уручаны ганаровы дыплом і залаты значок таварыства.

### БАЛЮЧАЕ

Беларускія газеты ўзмоцнілі кампанію супроць хуліганства, грубіянства ў адносінах да жанчын, усялякіх подласцей і брыдкаслоўя. Гэта надта балючая выхаваўчая праблема не толькі на Беларусі.

**«Грубасці — бой»,** пад такою агульнаю назвай змясціў свой матэрыял у газеце «Звязда» **Г. Кухарэнка.**

...«Стыль іх работы — пануканне, метад выхавання — вокрык, лаянка... Ад вечных вокрыкаў валіцца з рук работа. Людзі не вытрымліваюць гэтай «ігры на нервах» і звальняюцца. Перайсці ў любы іншы цэх, на любы іншы ўчастак, абы не было гэтага пастаяннага ўнутранага напружання, гэтай нервознасці». (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ХІМІКАЛІІ

Агульная вартасць прадуктаў, якія кіруе на рынак хімічная прамысловасць, узрастае ў сярэднім на 2 мільярдаў злотых у год. У гэтым годзе агульная вартасць гэтых прадуктаў асягне суму амаль 26 мільярдаў злотых. Больш, перад усім, чымсьці ў мінулым годзе будзе ў продажу штучных угнаенняў. Пабольшыцца таксама прадукцыя некаторых сродкаў сціркі як, напрыклад, папулярнае «Іхсі» (прадбачыцца пабольшыць з 11 тысяч тон у мінулым годзе да 22 — у гэтым), зменшыцца тымчасам прадукцыя звычайнага сціральнага мыла, запатрабаванне на якое змяншаецца. Не забяспечыцца аднак у гэтым годзе запатрабавання рынку на гумовыя галёшы, хаця прадукцыя іх узрасце з 23,6 мільёнаў пар да 25,4 мільёнаў пар. Поўнасцю забяспечыць запатрабаванне на гэты прадмет можна будзе толькі ў 1969 годзе, калі пачне працаваць новая фабрыка ў Лодзі.

### СЕРА

Пасля ўдачнага эксперыменту з эксплуатацыяй серы ў Гжыбове, дзе адбываецца «выпампоўванне» растопленай гарачай вадою серы з-пад зямлі, у III чвэрці гэтага года такім жа метадам пачне працаваць другая шахта серы — у Язёрку.

### ДАХОДЫ І ВЫДАТКІ

ГУС (Галоўнае статыстычнае бюро) апублікавала інфармацыю аб даходах і выдатках у 1963—1965 гадах, зробленую на падставе даследвання 4135 вылясаваных рабочых сем'яў. З матэрыялаў гэтых вынікае, што намінальныя даходы за гэты час узраслі ў сярэднім на каля 10 прац. Працэнт сем'яў, у якіх даходы на 1 асобу былі меншымі ад 600 злотых, зменшыўся з 9,6 да 5,1 працэнта. У 1965 годзе ўзрасло спажыццё мяса, рыбы, сыру і яек, зменшылася спажыццё мукі, хлеба, бульбы і каш.

### КАПЕРНІК

Рада Міністраў прыняла пастанову ў справе святкавання 500 гадавіны нараджэння геніяльнага польскага вучонага Мікалая Каперніка. Урачыстае адкрыццё святкаванняў пачнецца ў 1973 годзе ў Торуні — горадзе, у якім нарадзіўся гэты вялікі астраном. Затым у Кракаве адбудзецца ўрачыстая сесія Польскай Акадэміі навук, у Варшаве — сесія Міжнароднай астранамічнай уніі. З аказіі гадавіны будуць выдадзены друкам усе працы Каперніка, а таксама адкрыецца пастаяннае выдавецтва пад назвай «Studia Kopernikańskie». — Польшча будзе імкнуцца — перад усім праз ЮНЭСКА — каб надаць святкаванням міжнародны характар.

### НАФТА

У Торуні будуецца прадпрыемства геафізікі нафтавай прамысловасці, якога заданнем будуць пошукі нафты на польскім нізоўі. Экіпы гэтага прадпрыемства працаваць будуць у ваяводствах цэнтральнай і паўночнай Польшчы. (уп)

## ВАЯВОДСТВА

### САВЕЦКІЯ ГОСЦІ

На Беласточчыне пабываў член Прэзідыума Таварыства савецка-польскай дружбы, Станіслаў Жалнеровіч. Сустрэўся ён з вучнямі сельскагаспадарчага тэхнікума ў Крыжэве і з жыхарамі вёскі Завыкі. Наведаў таксама свае родныя старонкі ў Сувальскім павеце.

Гасцьмі Беластока былі спецыялісты меліярацыі з БССР і працаўнікі Гродзенскага педінстытута.

### У ГОНАР ПАЭТЭСЫ

Выдатная польская паэтэса Марыя Канапніцкая нарадзілася 125 год таму назад у Сувалках. У родным яе горадзе, дзе яна правяла сваю маладосць, адбыліся юбілейныя ўрачыстасці. У Сувалкі прыехала Марыя Шыпоўская — аўтар кніжкі «Канапніцкая, якой не ведаем». Вучні і жыхары горада склалі вянкі і букецікі кветак ля помніка паэтэсы.

### ВЯСКОВЫ ТЭЛЕФОН

Вёскі: Зімнохі, Дакторцы і Міньцы атрымалі тэлефанічнае спалучэнне з павятовым цэнтрам у Лапах. У час пракладкі лініі працавалі грамадскім чынам жыхары гэтых вёсак. Тэлефон набліжае іх да свету.

### ЮБІЛЕЙ ФАБРЫКІ

Папулярная ў Гайнаўцы фабрыка «хімічная» (Прадпрыемства сухой дэстыляцыі драўніны) ў гэтым годзе адзначае 50-тую гадавіну свайго існавання. З гэтай нагоды калектыў фабрыкі вынес прапанову, каб прысвоіць ёй званне: **«50-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі».**

### АДПАЧЫНАК

Прадпрыемствы тэкстыльнай прамысловасці ў Беластоку, Васількове і Міхалове намагаюцца стварыць сваім рабочым спрыяльныя ўмовы для адпачынку. Над возерам Сайна ў Аўгустове пабудавалі яны багата абсталяваныя кампінгі. У двухпакаёвых дачных доміках могуць праводзіць водпуск цэлыя сем'і рабочых.

### ГРАДАВАЯ БУРА

25 вёсак (звыш 2000 гаспадарак) у Манецкім павеце перажыло страшэнную градавую буру. Амаль гадзіну часу без перапынку падаў град велічынёю ў птушынае яйка. Самыя старыя людзі не памятаюць такой буры з градам і маланкамі. На лугах ля дарогі Гаточызна — Кшэчкова — Крапіўніца град слоем да метра ляжаў цэлы дзень. Пасевы знішчыў ён дашчэнту. У садах паабіваў лісце і кветкі. Людзі знаходзілі забітых зайцаў і птушак. Вада паразрывала дарогі, а на палі панасіла пяску і мулу. ПЗУ шацуе зараз затраты. Пацярпеўшымі сялянамі сардэчна заапекаваўся Павятовы камітэт партыі.

### ШТО МЯРКУЮЦЬ ЧЫТАЧЫ

Рэдакцыя «Газеты Беластоцкай» паклікала пры Аддзеле сувязі з чытачамі **«Калектыў даследвання грамадскай апініі».** Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва ўсіх грамадзян. (вр)




NIEDZIELA, 4.VI.

8.20 Politechnika TV. 10.00 Dla młodych widzów: „Pan Uljanow". 10.45 „Dolina królów" — film. 11.45 Dziennik. 12.00 „W świecie sztuki" (Sofia). 12.30 „Bawcie się z nami" — Amatorskie Zespoły Artystyczne Zw. Zawodowych. 13.15 PKF. 13.25 „Wielkie sprawy małych działek". 13.40 „Czarownice". 14.05 „Przemiany". 14.35 „Wszystko co stare" — film ang. 15.05 „Piórkiem i węglem". 15.25 „Opera San Carlo w Neapolu" — film. 16.05 „S.O.S. dla Puław". 16.40 „Wieża Babel we Wrocławiu" — rep. film. z Międzynarodowego Festiwalu Teatrów studenckich. 17.00 Sprawozdanie sportowe. 17.45 „Agnieszka i inne" — piosenki H. Warsa. 18.30 „Wielka gra". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Moskwa). 21.10 „Czarna suknia" — film tv pol. 21.55 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 5.VI.

16.55 Dziennik. 17.00 „Przygody Gapiszona" — film dla dzieci. 17.10 Dla młodych widzów: „Wiem, jak fotografować latem". 17.30 „7 milionów młodych". 17.45 „Kontrowersje". 18.15 „Kino Krótkich Filmów". 18.40 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Parafianie" — rep. filmowy. 20.30 Teatr TV: „Tajemnicze zniknięcie aktora Bendy". ok. 21.40 „Na półkach księgarskich". 21.50 „Refleksje". 22.20 Dziennik.

WTOREK, 6.VI.

10.00 „Pan Fabre" — film fab. fr. 12.30 „Przysposobienie Rolnicze": „Maszyny do nawożenia nawozami mineralnymi". 15.50 „Przysposobienie Rolnicze": „Maszyny do nawożenia nawozami mineralnymi". 16.00 Politechnika TV. 17.00 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.20 „Zapraszam na wtorek wieczór". 17.50 „Telekram". 18.00 „Giełda piosenki". 18.40 „Na morskich szlakach". 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Na melinę" — film tv pol. 20.35 „Fabre" — film fab. fr. 22.00 „Klaps". 22.30 Dziennik. 22.50 Politechnika TV.

ŚRODA, 7.VI.

9.25 „Morowa mama" — film fab. CSRS. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie „ONZ". 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka „Energia ciągle potrzebna". 16.20 „Przypominamy, radzimy": „Chemiczne przerzedzanie zawiązków jabłoni". 16.30 PKF. 16.40 „Gdzieś na granicy" — film pol. 16.50 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.15 „Nie tylko dla pań". 17.35 Magazyn Medyczny. 18.00 „Sylwetki X Muzy" (Pola Raksa). 18.30 „Pod znakiem jakości". 18.55 „Złote lata" — film węg. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Francuskie melodie rozrywkowe — film fr. 20.30 „Światowid". 21.00 „Antoś" — film wg noweli Guy de Maupassante'a. 21.25 Gawędy muzyczne prof. S. Śledzińskiego. 22.00 Dziennik.

CZWARTEK, 8.VI.

16.30 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 16.40 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę". 17.10 Dziennik. 17.15 „Tramp". 17.40 „Kwadrans zagadek". 17.55 „To, co najlepsze". 18.25 „Przegląd muzyczny". 18.55 „Historia z nagim chłopcem" — film CSRS. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Polacy na Równiku" — rep. filmowy. 20.25 Teatr Sensacji: „MGF-07" — odcinek I („Pocztówka z Buenos Aires"). 21.35 Wszechnica TV: „O czym się nie wie i nie wie". 21.55 Dziennik.

PIĄTEK, 9.VI.

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Przed letnimi wyprawami". 10.25 „Dom, w którym żyjemy" — film fab. radz. 12.00 Dla szkół (kl. IV) „Brzegiem Bałtyku". 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 Dla młodych widzów: „Operacja 1001". 18.10 „Kwadrans z Józefem Prutkowskim i jego utworami". 18.30 „Nos dla tabakiery". 18.55 „W sobotę i niedzielę" rep. film. lok. 19.05 „Telewizyjny Kurier Mazowiecki". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Edith Piaf" — film tv fr. 20.20 Teatr TV „Zamach" — komedia T. Brezy i S. Dygata. ok. 21.35 „10 minut recenzji". 21.45 „W królestwie białego słonia" rep. film. 22.05 Dziennik.

SOBOTA, 10.VI.

9.10 „Sprawcy nieznani" — film fab. wł. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Biologia — „O ewolucji świata zwierzęcego". 11.55 Dla szkół (kl. VI) Geografia: „Szczecin". 15.45 „Lidice" — film dokumentalny CSRS. 16.20 Program Tygodnia. 16.40 „4 × 60" („Wychowanie fizyczne naszych dzieci"). 16.55 Dziennik. 17.05 Program filmowy. 17.30 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu lekkoatlet. NRD — ZSRR (Jena). 18.15 „Tele-Echo". 18.55 „Buty" — film radz. wg opowiadania Czechowa. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.05 „24 godziny w Paryżu" — film fr. 20.55 „3000 sekund z Wincentym Rapackim" — program rozrywkowy. 21.55 Dziennik. 22.10 Wiadomości sportowe. 22.20 „Sprawcy nieznani" — film fab. wł.




2 CZERWCA

14.50 Dla dzieci. 15.00 Dla uczniów. 15.20 Dziennik. 15.40 Filmy animowane dla dzieci. 16.00 Sztafeta nowin. 17.00 „Sklep na placu". Film. 18.00 Dekada uzbeckiej literatury i sztuki. 20.00 Bokserskie Mistrzostwa Europy. Finał.

3 CZERWCA

10.00 „Przemysł Armenii". 11.55 Program. 12.00 Spektakl teatru lalek. 13.00 „Skarb Pugaczowa". Teatr TV. 13.30 Dziennik. 13.40 „Rewolucyjny marsz nauki". 14.00 „Dzień dobry lato". 14.40 Klub filmowy. 15.40 „Od Lutego do Października". 16.00 Dziennik. 16.15 „Śpiewa W. Kiryczenko". 16.45 Kraj ojczysty. Reportaż. 17.00 Dekada uzbeckiej literatury i sztuki. 18.00 Koncert. 20.30 Mecz piłki nożnej. ZSRR—Francja.

4 CZERWCA

7.55 Program. 8.00 Budzik. 8.30 Gimnastyka. 9.00 Koncert dzieci. 9.30 „Białe i czarne". 10.00 Dla dzieci (program z Krakowa). 10.30 Nauka tańców dla dzieci. 12.00 „W świecie sztuki". Program z Bułgarii. 12.20 Dziennik. 12.30 „Na ziemi, w niebie i na morzu". 13.00 Tydzień Armeńskiej SRR w Moskwie. 14.30 Koncert. 15.30 Dekada uzbeckiej literatury i sztuki. 15.50 Szkatułka muzyczna. 16.00 Jakub Swierdłow. 16.30 Kiosk muzyczny. 17.00 „Blaski i cienie". 17.30 Młodzi wykonawcy moskiewskiej operetki. 18.40 Dziennik. 19.00 TV teatr miniatur. 20.00 Program rozrywkowy. 20.45 Tydzień Armeńskiej SRR w Moskwie.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 102





I

Цягнік спыніўся, і Раман, студэнт другога курса тэатральнага вучылішча, пакашляўшы адрывіста ў хустачку, сцягнуў з полкі свой скупы чамадан і туга зацягнуўшы на шыі старамодны шалік высеў не на перон, а на другі бок, не асветлены і без падмостка, там, дзе лёгка было папасці пад другі цягнік. Раман не думаў цяпер аб гэтым, хаця думка аб магчымасці няшчасця затрапяталася ў яго peралёканым вераб'ём. Калісьці ён бачыў тут чалавека разрэзанага на тры часткі. А потым сястра некалькі раз пісала, што амаль на тым жа самым месцы здараліся выпадкі яшчэ і яшчэ... Але яму было ўсё роўна. Раман вяртаўся пасля доўгага часу ў бацькоўскі дом і вяртаўся хворы, знішчаны, напоўнены варожымі ценямі песімізму, і з цвёрдай пастановай ніколі і нікуды не выязджаць. «Хопіць, — думаў ён, — мучыць сябе, калі ты няздольны. Талент ад прыроды?!» Ён ішоў дахаты і меў перад вачыма постаць сярэдняга росту мужчыны з надзвычай вялікімі брывамі над пачырванеўшымі ў арбітах вачыма, з шавялюрай на галаве, у галантных нагавіцах і гальштуку, тым самым гальштуку, якога — паводле апавяданняў бацькі — ён атрымаў ад самага Шэкспіра... Раман ішоў дахаты і наракаў на бацьку, страчанага акцёра і тэатралога. Раман доўга трымаў у памяці старыя афішы — якая з партрэтам, якая з карыкатурай свавольнай рукі — і ўсе з прозвішчам яго бацькі, і ўсе з аднолькавым водгукам: вялікі, таленавіты, вядомы, наш і г.д.

Трымаў гэты хлам у сваёй памяці да таго часу, пакуль пад пагрозай бацькі не стаў студэнтам тэатральнага вучылішча. Восенню, два гады таму назад, з благаславеннем бацькі і ціхім дакорам маці і сястры апынуўся ў горадзе.

Ён і раней не адчуваў цягі да фокусаў перад публікай, не цягнула яго на сцэну, ён не любіў позы, грымасы, не свайго твару. Хаця прафесію бацькі цярпеў, а будучы ў сярэдняй школе стаў праяўляць зацікаўленасць гарадскім тэатрам, дзе працаваў яго бацька. Цяпер пасля першых заняткаў у вучылішчы Раман адчуў у сябе агіду да ўсяго таго, што яго акружала. Але ён не хацеў засмучаць бацьку — свой унісон прыпісаў змене абставін, свайму характару — і стаў чакаць з мора пагоды.

Лісты з хаты прыходзілі не часта, а тыя, якія ён атрымліваў ад сястры, былі для яго нядобрымі. Усю дабрату сястрынай ласкі ён адчуваў як горыч, і Раман піў гэту атраву з асаблівым смакам. Сястра, Юлька, пісала многа аб сяброўцы, з якою ён, скончыўшы сярэднюю школу, думаў жаніцца, пайсці працаваць. Сястра пісала аб іх садзе, і ён амаль не плакаў. Чытаючы радкі, Раман бачыў на шэрай сцяне суседняга будынку іх сад, стары, запушчаны і тым прыгожы, у якім толькі іх трое — Юлька, Оля і ён — ведалі, як прычашчацца з прыродай, каб быць яе часцінай у кожную хвіліну. Сястра пісала аб лугах, і хоць была зіма, Юлька ўсё вярталася да лета і асабліва восені і апісвала прыроду так пераканаўча, так рэльефна... А ўсё таму, што ведала, што брату трэба памагчы ў шэрых мурах каменнага горада. І памагала па-свойму.

Бедная Юлька, яна не ведала, што не памагала брату, а гнала яго нямінаючай тугой без цені і прычыны па вуліцах. Ён не мог жыць без гэтага, аб чым яна пісала, і шукаў зелені і ласкі сярод каменняў, ноччу, пасля ўсіх заняткаў. Раман не даядаў і недасыпаў, уцякаючы ад прафесараў, якія ведалі яго бацьку і па інерцыі прыязні памагалі сыну акцёра добрым словам; уцякаў ад сяброў, людзей папяровых, кніжных герояў, снобаў нежыццёвых — уцякаў ад іх усіх на перыферыі самотнасці, шукаючы там правінцыі задавальнення.

Бацька прыслаў адзін ліст, перад летнімі канікуламі. Ён пісаў, што Раману прыязджаць на лета дахаты абсалютна няма чаго. Ён ужо напісаў прашэнне да дырэктара тэатра, каб той яго прыняў на некалькі месяцаў да сябе, няхай папрактыкуецца. Дырэктар, стары знаёмы, згадзіўся, ён вельмі рады будзе, — пісаў бацька да сына, — бачыць напэўна не менш здольнага сына надзвычай багатай натуры бацькі.

Тэатр, у які залічаны быў Раман, на летнія канікулы і не закрываўся і не выязджаў нікуды; Раман усё лета пражыў у горадзе. Дырэктар рабіў усё, каб сын яго знаёмага пазнаў тайнікі яго махіны. Раман вяртаўся з тэатра змучаны, як быццам ён там насіў мяшкі з бульбаю, а ў сківіцы яму совалі іголкі.

Аднойчы, седзячы ў будцы суфлёра, ён як ужо не першы раз, зайшоўся доўгім кашлем і калі потым разгарнуў хустачку — у ёй была кроў. Ён зразумеў, што чырвонае гэта не белае і зелень яму не доўга бачыць.

І тады прыйшоў другі ліст ад бацькі. Бацька лаяўся, чаго ніколі не рабіў ні ў вочы, ні па-за, на сваіх сяброў, асабліва на дырэктара, які хоча адаслаць яго на пенсію. Ён звяртаўся да сына, каб ён не шкадаваў сіл і вучыўся, у ім — пісаў ён — усё яго далейшае жыццё. Калі яго і выганяць вон, то ён будзе жыць увасоблены ў таленавітага сына, у якога верыць безгранічна.

На другі дзень — о шчасце ў няшчасці — ліст ад Юлькі. Яна паведамляла брата аб тым, што бацька цяжка хворы. Аказваецца, сябры даўно падазравалі іх бацьку. Хвароба развівалася паволі і вось нядаўна праявілася. Гэта псіхічная хвароба — пісала сястра. — Выключна псіхічная. Мы з мамай баімося за бацьку. То ён Гамлет, то ён Рамэо... Цэлымі днямі толькі і слухай Шэкспіра — канчала яна ліст.

Раман гэтай ноччу меў цяжкія сны. Яму снілася нейкая крываная лужа, нейкае свінства лезла і ўбівалася ў памяць. Ранак, імглісты і цяжкі, прышоў з аб'яўленнем: ён рашыў не адпісаць ні Юльцы, ні тым больш, бацьку. Няхай што хочуць думаюць — у яго цяпер важнейшая справа.

Раман стаў лячыцца ў туберкулёзнай клініцы ў слаўнага прафесара. Праляжаўшы чатыры месяцы, у кішэні з няяснай, дабіваючай эпікрызай і парадай выехаць з горада, ён паявіўся ў тэатральным вучылішчы. У пустых калідорах яго кашаль аддаваўся гулкім рэхам, і Раману абнавіліся ў памяці і бацька і афішы аб ім. І тады, у першы дзень пасля клінікі, Раман зразумеў, што калі ён яшчэ раз сюды прыдзе, то, напэўна, пакончыць з сабою без часу.

Не развітаўшыся з нікім і не паведаміўшы аб гэтым бацькоў, Раман выехаў дахаты. У цягніку ён убачыў праз акно тайком прыйшоўшую вясну, даведаўся, што ўжо хутка Вялікдзень. Ён хварабліва глядзеў на ўціхаміручую зелень. Хацелася жыць.

II

Раман шкадаваў цяпер, што аб сваім прыездзе не папярэдзіў Юлькі — у хаце яе не было, а толькі яна магла зразумець яго. Яна, пэўна, уцякала па вечарах адсюль, не ў сілах знесці вычворванні бацькі. Адзін з пакояў ён перетварыў у сваё атэлье і дэкараваў яго пад пастаноўку трагедыі сям'і Капулеці і Мантэкі. Толькі маці, як міласцівая сястра, не адыходзіла на крок ад няшчаснага. Вачыма поўнымі слёз і рукамі ў закліканнях яна прасіла бога аблегчыць іх лёс. Яна жыла ў пастаянным страху, таму што бацька нёс дахаты шпагі, кінжалы, атравы розныя і невядомага назначэння прадметы.

Бедная, яна цяпер не скрывала сваёй роспачы. Шукаючы дапамогі, прыпала да сына, абняла яго, стала плакаць. Раман трымаў яе растрасанае цела здзірванелымі рукамі і чуў, як халодны пот аслабляе яго. Ён стаў кашляць і ў хустачцы зноў была кроў.

— Я хворы. Прагрэсіўным туберкулёзам.

— Ты хворы? — бацька ў позе венецкага абываценя стаяў на парозе. — Рамэо! Ты не можаш быць хворы. Ты ж геніяльны! На цябе тэатры сталіцы чакаюць... Ты славу майго прозвішча прадоўжыш... несмяротны Рамэо, сын мой!

— Я адпачыць хачу.

— Ідзем, ідзем пад дом Мантэкі... А дзе Жульета выйшла, маці? Акцёраў зваць усіх на сцэну — будзем іграць аж да світання.

Пад венецкім акном дома Мантэкі стаяў ложак бацькі. Маці паслала і Раман лёг. «Дзе мой бацька, — думаў ён. — Дзе мой бацька? Як знайсці бацьку ў грымасах гэтага акцёра? У пастаянным тэатры?..» Ён з далёкай, паўсоннай перспектывы аглядаў паразвешваныя касцюмы, слухаў маналогі з Шэкспіра і праклятая фармулёўка «Быць або не быць» пульсавала ў яго жылах штораз цяжэй, а ён камусьці цвердзіў: «Быць, быць, быць!» І ў забыцці Раману да слёз было шкада Юлькі, што спала сном непрабудным для Рамэо. Ён хацеў пырнуць сваё сэрца кінжалам, але прыступ істэрычнага кашлю перашкодзіў гэтаму. Каб бацькі не чулі яго выбухаў, Раман, як у дзяцінстве, накрыўся падушкай. І зноў Жульета мёртвая снілася Рамэо.

Прышла Юлька. Маці плакала, бацька сядзеў патупіўшыся ў падлогу. Яна пачула новае няшчасце. Хацела пагаварыць з братам, але ён спаў.

— Гляньце, як ён спіць — з падушкай на галаве.

— Не будзі яго, — жэсты бацькі набраклі трагедыяй. Ён з туберкулёзам. Прагрэсіўным. Сын мой!

Ён плакаў. У крышталіках слёз бацька ўбачыў фатамаргану тэатра. І сябе на сцэне, захліпнуўшагася воплескамі. Ён — кароль Лір. Цяжка жыць каралю.... І раптам ударыла музыка. Як некалькі год таму назад — страшэнная, з жыцця зводзячая, усемагутная. Тады Раман купіў гэту пласцінку і прыбег у тэатр прайграць. А ён пры ёй, ашаломлены і зусім пакананы, кінуўся знішчаць усё навокал. І цяпер гэта музыка. Ой, як цяжка!.. Араторыя цякла з пакоя Юлькі тоненькай іголачкай, па скронях танцавала дробнымі прытупамі, малаточкамі хадзіла па патыліцы і ўсё вышэй, вышэй падбіралася пад чэрап.

— Юлька брату йграе. Ён так любіў яе заўсёды слухаць. Калі ты ў тэатры быў, мы слухалі з набожнасцю яе.

І маці выйшла туды, дзе ігралі «Мэсьяша».

А ля дома Мантэкі каля сына сядзеў бацька. І яму здавалася, што гэта не Раман, а ён сам ляжаў, знішчаны, смяротны, пад падушкай. Так цяжка аддыхаць. Бацьку стала душна. Музыка, распінаючая, нясучая ў бездань, звяла яго рукі на падушку, і яны стальнымі дужкамі замкнуліся над спячым.

Бацька доўгі час трымаў у руках мёртвае цела сына. І ўжо канчалі «Алілуя».

ЯН ЧЫКВІН

# У Белавежскай пушчы

1.

Сыпала сонца бледныя праменні,
Стаяў прыгожы ціхі дзень асенні.
Гарэла пушча залатым пажарам,
Палонячы душу сваёй красою.
Ахоплены красы нязмерным чарам
Плылі мы вузкаю, крутой ракою.
Лодка хісталася на шэрых хвалях
І нас адносіла ўсё далей, далей,
У нетры краіны запаветнай,
У тыя, казачных калёраў, спектры,
Дзе шлях няпройдзены адвечнай пушчы
Дарыць душы свой супакой гаючы.

2.

Жывыя сцены утварылі дрэвы,
Ўгары на дах спляліся кроны поруч,
Ля берагоў, чарот над асакою
Схіліўся і шапоча аб прадвесні.
Жывая вечнасці святыня
Нас прыняла і мы стаем пакорна.
Вёслы кладзем і ў неба пазіраем,
Шукаем сонца — залатое кола...
Глядзі вось там, між срэбрнаю ліствою,
Ляціць дух пушчы шэраю стралою.

3.

Над грывай пушчы ў ледзь прабачнай высі
Кружыць арол, то ўгору, то зноў знізіць.
Махнуў крыламі, знік, а мы глядзелі
Услед за ім з тугой і захапленнем.
Глядзім уніз; каля ракі паляна,
Вузкая сцежка свежа пратаптана,
Ласёў, што йдуць да вадапою.
Цяпер няма іх, толькі мы з табою.
А рэчка крута ўправа павярнула
І разлілася творачы азёрца.
Ад нечаканасці мы вочы жмурым,
Вітае шчодрай цеплынёю сонца.
Тут дзікіх качак незлічоны стады
Зрываюцца, пачуўшы вёслаў шорах,
Над асакою кружацца нізенька
І зноў бяспечна на ваду сядаюць.

4.

А мы плылі, і пушча плыла з намі
Жывою казкай і жывым сезамам.
Насустрач карагоды дрэў і ценяў.
Ты ўсё глядзела ў шчырым захапленні
На гордую красу жывой прыроды,
Дзе столькі пекнаты і асалоды.
Іскрыліся твае валошкавыя вочы,
І я маўчаў, і я пакінуў вёслы...
Лісцё як матылькі асеннія — ляцела,
Пушча здалася першабытным раем,
А ў ёй былі мы, як Адам і Ева.

УЛАДЗІМІР ГАЙДУК

ЛЮДЗІ І ЧАС

# Францішак Каравацкі



„Мы ішлі ў цяжкім змаганні
За лепшы лёс працоўных мас,
А паны за гэта сёння
У астрог загналі нас.

Што, сябры, засумавалі?
Дайце песню запаём!
Каб аж краты задрыжалі
І затросся цэлы дом!"

Так пісаў Францішак Каравацкі ў 1927 годзе седзячы ў санацыйным астрозе. Сябрам — турэмшчыкам верш спадабаўся. Пачалі спяваць яго на мелодыю „Волга, Волга". Песня хутка разышлася сярод рэвалюцыянераў. У 1964 годзе была яна друкавана ў „Літаратуры і мастацтве", як народная песня невядомага рэдакцыі аўтара. У гэты менавіта час, у час ахвяр і змагання з санацыйным рэжымам пачаў Францішак Каравацкі сваю даволі незвычайную літаратурную творчасць. Была гэта творчасць неразрыўна звязана з жыццём і дзеяннем яе аўтара.

Нарадзіўся Францішак Каравацкі 14 мая 1907 года на хутары Каладзянка, былога Віленскага ваяводства. Маючы 19 гадоў быў ужо членам КПЗБ. Адначасова дзейнічаў як інструктар Незалежнай сялянскай партыі (НПХ). Актыўная дзейнасць маладога падпольшчыка хутка была ўласціва ацэнена партыйнымі ўладамі. Ужо ў 1928 годзе ён уваходзіць у склад мясцовага райкома КПЗБ. На жаль, падпольная дзейнасць Каравацкага хутка сталася вядомай паліцыі. У 1929 годзе яго арыштоўваюць; у турме прасядзеў ён па 1936 год.

Вярнуўшыся з турмы, Каравацкі зараз жа ўключаецца ў бурлівае палітычнае жыццё. Фармальна кіраваў ён Беларускім культурна-асветным таварыствам у Варшаве. Фактычна ж дзейнічаў пры Цэнтральным Камітэце КПЗБ. Гады турэмнага жыцця не зламалі маладога рэвалюцыянера. У 1930 годзе ён пісаў у вершы пад загалоўкам „Я жыву".

„Калацілі ў дэфензіве
І таптaлі, як траву.
Я усім шпікам на дзіва
Не падох — усё жыву!

Як паны мяне судзілі,
Не схіліў я галаву.
На Лукішкі пасадзілі,
Але я і тут жыву!

Крыўдзіць стану — я камуну
На падмогу пазаву!
Скатаваны кроўю плюну,
Але крыкну — „Я жыву"!

Паэзія Францішка Каравацкага была рэвалюцыйным заклікам у даслоўным сэнсе. У 1927 годзе, пасля ліквідацыі „Грамады", Каравацкі заклікае народ да ўступання ў рады КПЗБ у вершы пад загалоўкам „Жывем новы год".

„Звузілі палоскі,
Бацькаўскай зямлі,
Асаднікам польскім
Яе аддалі.

За шарваркі, за падаткі
І кароўкі і цяляткі —
Ад нас павялі,
Ад нас павялі.

Косім з палавіны
Панскія лугі,
Мераем асьміны
Збожжа за даўгі.

Круцяць жорны бацька з сынам,
Ядзяць чорны хлеб з мякінай,
Паны — пірагі
Паны — пірагі.

Залягла на сэрцы
Цяжкая дума:
Ці ж так аж да смерці
Ратунку няма?

Ёсць ратунак: Збунтавацца
У КПЗБ аб'яднацца!
Вырвацца з ярма!
Вырвацца з ярма!"

І гэты верш стаўся песняй — уласнасцю народа. Запісаў гэтую песню ў турме вядомы пісьменнік Піліп Пестрак і выкарыстаў потым у сваёй кніжцы „Сустрэнемся на барыкадах". Запісаў яе ў іншым месцы і Шырма — менавіта як народную песню.

Падпольная дзейнасць Каравацкага не замыкаецца міжваенным перыядам. У час гітлераўскай акупацыі быў ён разам з іншымі рэвалюцыянерамі перакінуты з Масквы на тэрыторыю краіны, дзе прыняў удзел у арганізаванні ППР і Арміі Людовай.

Зараз Францішак Каравацкі на партыйнай пенсіі. Надалей аднак не пакідае грамадскай дзейнасці. Уваходзіць у склад Дзельніцовага камітэта Варшавы — Сьрудмесце і кіруе камісіяй да спраў рэвалюцыйных дзеячоў.

Нядаўна Францішак Каравацкі адзначаў сваё 50-годдзе. Да агульных віншаванняў складаем і мы свае віншаванні гэтаму змагару і песняру змагання. (п)

# У сэрцы польскай нафтахіміі

(Працяг са стар. 1)

мага хутчэй сустрэць «свайго», а тут справа складаная. Адзіны выхад перада мной. Шукаць землякоў у картатэцы аддзела кадр, якая налічвае 1600 працаўнікоў разумовай працы і каля 7 тысяч фізічных. За плячыма адчуваю пот, але ў блакноце паяўляюцца першыя прозвішчы беластачан: **Ірэна Рот** — эканаміст, родам з Гайнаўкі, **Баляслаў Бараноўскі** з Чаромухі, **Сцяпан Анапюк** — інжынер механік, родам са Спічкоў, Бельскага павета, **Аляксандр Пуховіч,** інжынер хімік з Гайнаўкі.

Пры дапамозе працаўніцы кадраў навязваю сувязі. Некаторыя з маіх землякоў у водпуску, камандзіроўцы, на лекарскім звальненні.

Мгр інжынер Аляксандр Пуховіч працуе ў адной з установ плоцкага камбіната — праектна-даследчай у тэхналагічным аддзеле. Заданні гэтай установы можна сказаць найважнейшыя. Праз рукі Пуховіча і супрацоўнікаў праходзяць усе праекты адносна новай прадукцыі ў нафтакамбінаце, апрацоўваюцца тут даныя да апрацоўкі новых праектаў дакументацыі, апіньюоцца новыя дакументацыі. Адным словам тое, што будуецца і інсталюецца, і тое, што прадукуе плоцкая нафтахімія мусіць прайсці праз рукі праектна-даследчай установы.

Сяджу за сталом. Гляджу на маладога інжынера хіміка. Сярэднюю школу закончыў ён у Гайнаўцы ў 1956 годзе. а потым закончыў палітэхнічны інстытут. Да Плоцка дарога не была простая. Трэба было навучыцца ў іншых цэнтрах. У асвенцімскім хімічным камбінаце А. Пуховіч займаўся доследамі бутану, як новым каталізатарам, інакш гаворачы сыравінай да прадукцыі сінтэтычнай гумы. З Асвенціма быў перакінуты ў Тарнуў, дзе наглядаў за выкананнем вельмі пільнай працы — прадукцыі партыі новага каталізатара, які меў быць даследваны краінамі РВПГ. У Бляхоўні Шлёнскай наглядаў пуск прылад, дзе прадукавалася сыравіна для прадукцыі эланы.


Мгр інжынер хімік Аляксандр Пуховіч.

— Пасмакаваў і рэдактарства, — усміхаючыся гаворыць мой размоўца. — Будучы ў Асвенціме мімаходам займаўся рэдагаваннем «Інфармацыйнага экспрэсу і бюлетнёў» для інжынерна-тэхнічнай кадры. Проста вымушаны быў сачыць за фаховай англійскай, французскай, савецкай і нямецкай літаратурай і аб навінах хіміі пісаць у бюлетні.

— Пане рэдактар! — не вытрымаўшы ўключаецца ў размову адна з супрацоўніц Аляксандра. Наш Олек вельмі скромны, але гэта наша «ходзячая энцыклапедыя». Толькі выйдзе на некалькі хвілін у бібліятэку, і ўжо прыходзіць гаворачы: табе ў англійскім журнале цікавы артыкул, а ты зацікаўся савецкім, а і ў французскім цікавыя доследы з тваёй галіны. Але не толькі інфармуе, вельмі часта тлумачыць нам з іншых моваў, таму што імі валодае добра. Наш Олек сапраўды «файны», ён і дасканалы гумарыст. Адным словам, калі ўсе з Беласточчыны такія, дык мы захапляемся не толькі Олькам, але і беластачанамі.

Прыемна і міла.

— Олек! А чаму не гаворыш аб сваіх загранічных паездках, — уключаецца другая пані інжынер.

— Сапраўды я быў за граніцаю, але пакуль што тры разы: як кансультант у камісіі РВПГ, ну і ў братніх заводах Чэхаславакіі і ГДР.

Размова працягваецца, штораз уключаючы ў свой ток супрацоўнікаў Аляксандра і перакідаючыся на тэмы, якія датычаць Беласточчыны, а перад усім беларусаў, «Нівы». Час ляціць мігам. Мілым размоўцам пара на прадукцыйную нараду. Адводзячы мяне, Олек сказаў:

— Праца вельмі цікавая, камбінат на ўзроўні еўрапейскім, а нават сусветным, і не збіраюся нікуды пераносіцца, хіба што ў Беластоцкім ваяводстве адкрыюць нафту, дык тады абавязкова прыеду.

**А. Карпюк**

**20 год таму назад**

**ЯН ВЕРЭМЕЮК**




**Каб закончыць разбойніцкую дзейнасць украінскай паўстанчай арміі, Дзяржаўны Камітэт Бяспекі загадам № 00189/III ад 17 красавіка 1947 года рашыў стварыць вайсковую аперацыйную групу «ВІСЛА» ў саставе пяці дывізіі пяхоты.**

**Ян Верэмеюк — тады вучань (падхаронжы) Афіцэрскай школы санітарных інструктараў — папаў у 7-мы камбінаваны полк пяхоты. 22 красавіка быў ужо ў мястэчку Санок — у самым цэнтры ўкраінскага нацыяналістычнага падполля. Ніколі не вядома было, адкуль выпаўзе вораг. Штодзень ішла заўзятая барацьба з упоўскімі сотнямі. Вось 7-га чэрвеня 1947 года: Ян Верэмеюк успамінае:**

Сёння вечарам паручнік Ф. ідзе з групай салдат у засаду ў раёне вёсак Добча і Місаны, дзе некалькі дзён таму назад удалося нам арыштаваць каханку камандзіра упоўскай соткі „Каліновіча". Прашу паручніка, каб забраў мяне з сабой. Згадзіўся.

Ноч. Ціха падкрадаемся на невялікі ўзгорак. За ім гаспадарскія будынкі вёскі, царква і парафіяльны дом. Перада мною ідуць салдаты пярэдняга забеспячэння, бачу сілуэт паручніка і плютановага „Ёт". Астатнія салдаты, пастроеныя ў двух радах, ідуць прыдарожнымі равамі. На вяршыні ўзгорка на нейкі час залягаем, а разведчыкі падпаўзаюць далей. Мы лежымо, чакаем на іх сігнал. Бліснула галубое святло: раз, другі і трэці. Устаем і ідзем. Цішыня, пуста. Нават ніводзін сабака не забрэша. За царквой маем рассыпацца ў тыральеру і некалькі дзесяткаў метраў далей залегчы аж да ранку. Раптам з бліжэйшага дома раздаліся стрэлы. Падаю на зямлю, зараджваю свой аўтамат. Салдаты, маі суседзі, сякуць у хату, дапамагаю ім. Узаемная стралянiна ўзмацняецца.

— Падхаронжы! — крычыць плютановы „Ёт". — Падхаронжы, ка мне!

Адпаўзаю да рова, адкуль даходзіў голас плютановага.

— Паўзі ўбок, — гаворыць плютановы, — вунь там, за гэтым карчом толькі што паклаў я паручніка. Крыві і раны не прыкмеціў, а ён з рук ляціць. Хіба непрытомны.

Паўзу да карча, падаю ў нейкую паўкрутую яму. Тут паручнік. Хутка расшпільваю яго мундзір, разрываю сарочку. Рукой мацаю па яго грудзях і жываце. Раз і другі. Не знаходжу раны. Абмацваю галаву, твар і шыю. Ёсць! Маленькая дзірачка над ключыцай. Правяраю ключыцу. Косць быццам цэлая. І тады ўспамінаю: то ж тут праходзіць пакдлючыцавая артэрыя! Хіба прабіта, безумоўна прабіта! Як жа ж вучылі мяне ў школе? Налажыць уцісковую павязку. Найлепш гэтую артэрыю моцна прыцiснуць да ключыцы. Дык хутчэй, хаця пальцам. Пакуль паявяцца хлопцы. Тады налажу павязку. Калі цяпер пушчу палец і пачну корпацца ў санітарнай торбе, ён моцна ж выкрывавіцца. Але чаму ж іх так доўга няма. Відаць, не могуць. Стралянiна яшчэ не спынілася. А мне палец ужо зусім здрантвеў, і над галавой цэлы рой нейкіх жукаў свішча. Не, гэта не жукі. Хто ж бачыў жукоў пасля поўначы? Яны толькі ўдзень лётаюць. Гэта кулі.

— У тыл! Харонжы, адступаць!

Голас быццам плютановага, а нейкі далёкі. Дзівак з яго, як жа магу я адступаць, калі нельга мне пальца зняць з артэрыі. Нейкія крокі? Но, урэшце хлопцы прыходзяць!

— Тут віны когось шукалы, — чую амаль над сабой.

Бог ты мой! Украінцы! Ходзяць недалёка ад ямы, у якой сяджу. Мацней прыціскаюся да зямлі. Чую, што сэрца падплывае мне пад самае горла.

— Брэшаш, — гаворыць другі.

— Не, ей богу, добрэ бачыў.

Уцякаць! Што ж будзе, калі знойдуць?! А ці можна пакінуць паручніка? Як толькі адыйдуць крыху далей, сарвуся і пабягу. А можа лепш гранату дастаць з кішэні? Не, спярша аўтамат. Гранату можна пазней. Але што зрабіць з пальцам? Адняць яго ад артэрыі нельга. Палец... граната... аўтамат... уцякаць... А страх, чорны страх ціснe, душыць, займае дыханне. Здаецца пайшлі. Так, пайшлі далей. А можа стаяць ззаду і глядзяць на мяне?

І раптам:

— Урра! Ура...а...а.., — галасы даходзяць недзе з боку. Гэта нашыя! Толькі нашы так крычаць! Яшчэ хвіліну, адну маленькую хвіліну пачакаю. А пасля гайда!

Штосьці цяжкае валіцца на мяне.

— Ты тут, брат?! А я ўжо падумаў, што вас упоўцы...

Плютановы ледзь лапае паветра.

— Не, — гавару, — хадзілі яны тут, але нас не пабачылі. Дастань з маёй торбы два асабістыя пакеты і ёд, наложым паручніку ўцісковую павязку. Без дапамогі не спраўлюся. Ад артэрыі нельга адняць пальца.

Плютановы падымае паручніку галаву, падкладае рукі пад плечы.

— Добра, — гавару. — Цяпер падапры яго каленам і разарві першы пакет.

— Каму ты хочаш рабіць павязку? — з'едліва пытае плютановы. Не разумею.

— Што ты, не бачыш? — гавару.

— Ён жа ўжо зусім халодны, — гаворыць плютановы. — Навошта яму цяпер твая павязка?

— Раней я не мог, — гавару. — Калі б адняў палец ад артэрыі і заняўся бінтамі, надта ж многа крыві ён бы патраціў.

— Вазьміце, хлопцы, цела паручніка і палажыце ля дарогі, — загадвае плютановы двум салдатам, якія стаялі побач. — І параненым Валодзем займіцеся самі, бо наш падхаронжы нейкі дзіўны.

Валодзя? Які зноў Валодзя? Паранены? Паручнік здаецца інакш называўся. Іду да салдат, сядаю на дарозе побач паручніка. Салдат штораз больш. Хтосьці гаворыць, што нехта ўцёк і след па ім ужо прастыў. А паручнік ляжыць і енчыць.

 

СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ

# 8 год праехана

Беластоцкай «Грамадзе» — спулдзельні турыстычна-адпачынковай ужо 8 год. З гэтага выпадку адбылася ўрачыстасць з удзелам улад і ўсіх удзельнікаў культурнай акцыі «Сядайце, едзем». («Ніва», як ведаем, з'яўляецца яе ўдзельнікам). Сама беластоцкая «Грамада» атрымала (як адзіная дагэтуль такога роду спулдзельня ў краіне) зборную адзнаку Тысячагоддзя, а чатырох яе працаўнікоў на чале з дырэктарам атрымалі індывідуальныя адзнакі Тысячагоддзя. Наш журналіст Вера Леўчук, якая прапагуе супольную акцыю «Сядайце, едзем» атрымала ад Рады начэльнай «Грамады» ганаровы дыплом за вялікі ўклад працы.

А вось два лікі з 8-мігадовай дзейнасці «Грамады» на Беласточчыне: за 8 год — 8 тысяч рознага роду мерапрыемстваў было арганізавана.

700 тысяч жыхараў Беласточчыны прыняло ў гэтых мерапрыемствах удзел за 8 год. Дзейнасць «Грамады» мае характар культурна-асветны: знаёміць з найлепшымі калектывамі, цікавымі людзьмі і вартымі ўвагі мясцамі нашай краіны. (вл)



**Намеснік старшыні Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа — Ян Чапля адзнаку Тысячагоддзя ўручае Аліцыі Кузьме — галоўбуху Беластоцкай «Грамады», найлепшаму галоўбуху з усіх «Грамад» у краіне.**

— Гэта ж не паручнік! — гаворыць адзін з салдатаў. — Енчыць Валодзя. Гэты з другой дружыны.

А пасля дадае:

— Штосьці не таго з нашым падхаронжым, калі так пляце.

Світае. Аднекуль з'яўляюцца дзве сялянскія падводы. На адну салдаты кладуць цела паручніка, а да другой нясуць нейкага другога. Ага, гэта ж Валодзя з другой дружыны. Нізенькі, каржакаваты. Енчыць, значыць жыве.

Што ж у мяне ў руках? Сігарэтніца? Калі ж я дастаў яе паручніку з кішэні? А ён гаварыў, што здымкі яго блізкіх, найдаражэйшых, якія хаваў у гэтай сігарэтніцы, усцерагуць яго ад смерці.

Валодзя енчыць. Страшэнна.

— Гэта праз цябе падхаронжы яго параніла, — гаворыць плютановы. — Каб ты так доўга не сядзеў над трупам паручніка, не трэба было б паўторна адбіваць вёскі.

— Я ж табе не загадваў ісці ў атаку, — гавару. — І паручнік таксама.

— А што, можа меў я вас пакінуць? — злуе плютановы.

— Калі б нават вы абодва ўжо не жылі, загадаў бы атакаваць. Не пабаяўся б, што многія сярод маіх салдат маглі б...

Спыніў сказ у палавіне слова і прыліп да мяне позіркам.

— Хлопцы, глядзіце, — кажа. — Падхаронжы пасівеў за гэтую ноч.

Выймаю люстэрка. Сапраўды праз сярэдзіну галавы пралажылася белая дарожка, а на скроні сівізна.

— Гэта хіба мука, — гавару, — або нейкі парашок.

Трасу валасамі. Без выніку. Белізна астаецца.

# КУРС НА ВЫХАВАННЕ



Трэба яшчэ раз паўтарыць, што бацькоўскія камітэты ў школах запісаліся ў хроніках, як добрыя гаспадары, якія дбаюць пра матэрыяльныя ўмовы школ. Новыя заданні, якія ставіць жыццё перад сучаснай школай, сведчаць аб тым, што такая дапамога бацькоў няпоўная. Неабходным ёсць, каб бацькоўскія камітэты заняліся выхаваўчымі справамі школ, каб уключыліся ў дыдактычна-выхаваўчы працэс школы. Заданне гэта не лёгкае, тым больш не лёгкае, што ў школах вясковых ці маламястэчковых, дзе бацькі ў асноўным з'яўляюцца гаспадарамі, міма сваёй добрай волі, не заўсёды ўмеюць знайсці сваё месца ў выхаваўчым працэсе школ.

Каб магчыма найбольш гэтая справа распаўсюдзілася, хочацца сказаць, што ў гэтым напрамку робіць адзін з бацькоўскіх камітэтаў. Рэч аб **Орлі,** што ў Бельскім павеце. Штопраўда, Орля — гэта нешта больш чым вёска, але школа мае характар тыпова вясковы, таму што тут многа моладзі з навакольных, нават невялічкіх вёсак.

Бацькоўскі камітэт супольна з кіраўніцтвам школы апрацавалі план, слушна ставячы на першае месца так званую **педагагізацыю бацькоў.** Лекцыі аб выхаванні і педагогіцы вядуцца ў Орлі не толькі на «вывядуўках», якія адбываюцца раз на чэцверць, але прысвячаецца ім і іншыя дні. Метады вучобы розныя: успомненыя лекцыі выхаваўцаў, бацькоўскі ўніверсітэт, фільмы. Такія фільмы як: «Каму двойка», «Няма за што яго хваліць» ці «Кахаем дзеці» не толькі многаму навучылі, але на даўжэйшы час узбудзілі дыскусіі сярод бацькоў. Бацькі з Міклашоў зімой арганізавалі давожванне дзяцей, што з'яўляецца і матэрыяльнай і справай выхавання.

Асаблівыя выхаваўчыя цяжкасці мае школа ў Орлі з вучнямі, якія даязджаюць са Шчытоў. Былі многія звесткі, што вучні кепска захоўваюцца і таму падобнае. Пачаткова туды часта ездзілі настаўнікі, а зараз гэтую справу перанялі бацькі. Адзін са шчытоўскіх бацькоў абавязаны даваць школе паведамленні аб паводзінах вучняў са Шчытоў.

Выхаваўчыя справы відавочны і ў фінансавым плане бацькоўскага камітэта. Маецца тут на думцы перад усім дзеці, якія патрабуюць матэрыяльнай дапамогі. У мінулым годзе, напрыклад, каб даць магчымасць бяднейшым прыняць удзел у летніх лагерах для дзяцей, аплочана за іх патрэбныя належнасці. У школе вядзецца харчаванне, за якое не плацяць найбяднейшыя. У часе навагодняй ёлкі гэтыя ж дзеці атрымоўваюць бясплатныя «пачкі».

Апрача таго бацькоўскі камітэт у Орлі наогул разгледзіў справу матэрыяльнай дапамогі вучням тамтэйшай школы і адпаведныя прапановы выслаў у аддзел асветы. На экскурсію камітэт прызначыў 1800 зл. Як правіла, са свайго гадавога бюджэту, камітэт прадбачвае для бедных дзяцей каля 10% агульнай сумы.

Гэта толькі некаторыя справы аднаго камітэта. Думаю, што некаторыя з іх арыгінальныя бацькоўскаму камітэту ў Орлі да ўвядзення амаль у кожным асяроддзі і могуць праводзіцца простымі людзьмі з бацькоўскіх камітэтаў. У Орлі ўжо відавочныя рэзультаты выхаваўчай кампаніі бацькоўскага камітэта, хаця дайсці да іх не было так лёгка, як гэта выглядае з вышэй напісаных слоў.

**А. Лабановіч**

Конкурс Лігі аховы прыроды на найлепш працуючы гурток Лігі закончаны. У конкурсе прымала ўдзел 61 гурток ЛОП-у спасярод 316 існуючых у нашым ваяводстве. Першае месца прызнана гуртку ЛОП-у з мазавецкай вёскі Дваракі-Стаські, другое месца гуртку з Калінава. Тры трэція месцы прызнана гурткам ЛОП-у з Лявіцкіх п/д Беластокам, з Толчаў і гуртку пры пачатковай школе № 9 у Беластоку.




Асаблівай увагі заслугоўвае дзейнасць гуртка ЛОП-у ў **Лявіцкіх,** якім кіруе настаўніца мясцовай школы **Казімера Хілецкая.** Гэта адзіны гурток з беларускіх аколіц, які прымаў удзел у гэтым конкурсе. Як не дзіўна, але чамусьці зусім не цікавяцца справамі аховы прыроды на Гайнаўшчыне, Бельшчыне ці Сакольшчыне. Там лясы і лясное звяр'ё, якое патрабуе апекі і нагляду. Там, у нашых паветах, асабліва спрыяльныя ўмовы да такой выхаваўчай працы з моладдзю.

Для прыкладу варта падаць такое здарэнне, якое нядаўна мела месца ў адной мазавецкай вёсцы. Члены мясцовага гуртка ЛОП-у знялі каля пяцідзесяці браканьерскіх петляў і пастак, не зважаючы на шантаж з боку браканьераў. (С.Я.)

# НЕПРЫЕМНЫЯ ДРОБЯЗІ

Беластоцкае Навуковае Таварыства пачынаючы ад 1964 г. сістэматычна выпускае гадавік пад назвай: «Acta «Baltico-Slavica». Да гэтага часу выйшла з друку чатыры гадавікі. Мяркуючы па матэрыялах, якімі запаўняюцца гадавікі, БНТ прыцягнула да супрацоўніцтва сур'ёзныя навуковыя сілы, як краёвыя, так і замежныя.

Пра характар і мэты гадавіка, якім ён мае служыць, выдавецтва выдрукавала кароткае паясненне — інфармацыю ў шасці мовах: польскай, рускай, англійскай, беларускай, літоўскай і латвійскай. Гэта паясненне бязменна друкуецца ў кожным гадавіку, на вокладках, з якога даведваемся, што «Acta Baltico-Slavica» прысвячаюцца «палітычным, грамадскім і культурным суадносінам, якія існавалі ў мінулым і існуюць у сучаснасці паміж балтыйскімі народамі (старажытнымі прусамі, літоўцамі і латышамі) і славянскімі народамі (палякамі, беларусамі і рускімі)»... Далей ідзе больш падрабязнае паясненне, якімі тэмамі цікавіцца рэдакцыя гадавіка. Тэкст гэтага паяснення на беларускай мове змяшчаецца ў 13 радках друку на трэцяй старонцы вокладкі.

Прaглядаючы змест надрукаваных гадавікоў з вялікай прыемнасцю канстатуеш, што рэдакцыя датрымоўвае слова. Матэрыялы цікавыя, актуальныя і на высокім навуковым узроўні, і з кожным наступным гадавікам заўважаецца прагрэс у разгортванні навуковых балта-славянскіх праблем.

І ўсё было б добра і прыемна, каб не прыкрыя дробязі, якія рэдакцыя гадавіка дапусціла і паўтарае іх у кожным томе.

Прапаную зацікаўленым прачытаць тлумачальны тэкст на беларускай мове. У II радках знойдуць каля 10 рознага роду памылак, якія трывала прэзентуюцца ва ўсіх чатырох дасюль выйшаўшых гадавіках.

Было многа часу на тое, каб на гэтыя памылкі звярнулі ўвагу ў першую чаргу супрацоўнікі гадавіка беларусы-мінчане і нашы — напрыклад др А. Баршчэўскі.

У тэксце бытуюць такія памылкі, якія нават скажаюць сэнс друкаваных сказаў. Напрыклад, замест **наказ** выдрукавана **паказ,** замест **навуковых** — **навыковых** і г.д. У літоўскім тэксце таксама ёсць памылкі, прыклад, замест **targ** — надрукавана **trap,** альбо замест **ц** надрукавана ў адпаведных словах літара **u,** а гэтая розніца знакаў у літоўскай мове надае іншы сэнс слову і сказу.

Рускі тэкст таксама просіць лепшага стылю.

Гэты, здавалася б, мала істотны факт, але ўсё ж ён сведчыць аб абыякавых адносінах рэдакцыі гадавіка да тых моваў, у якіх дапушчаны так доўга паўтараючыеся памылкі.

**М. Пецюкевіч**

# МІКОЛА СУЛІМА

Мікалай Суліма з'яўляецца дырэктарам акруговай паштова-тэлекамунікацыйнай установы ў Гайнаўцы, як гэта ў скарачэнні гаворыцца дырэктарам поштаў Гайнаўшчыны.

Апрача свае ўстановы на месцы яму падначалены ўсе 18 поштаў у павеце. Пасада вельмі адказная, патрабуе шмат ведаў, шмат арганізатарскіх здольнасцей, уменне кіраваць і супрацоўнічаць з людзьмі. Работы заўсёды больш як трэба, больш як прадбачваюць нават гадзіны працы. Бо гэта і лісты, і падпіска, і высылка пасылак, і тэлефоны, і тэлеграмы, і радыёкропкі і г.д. А трэба, каб усё добра працавала, хутка даходзіла да адрасата.

І толькі той чалавек на пасадзе дырэктара можа справіцца з усімі складанымі задачамі пошты, які сам асабіста добра ведае ўсе дзялянкі працы. Калі разыходзіцца пра Міколу Суліму, дык ён ведае іх вельмі добра. Працаўніком пошты стаў 19 год таму назад, на пасадзе пісьманосца ў Орлі. Пасля года працы ўзначаліў ён гэту пошту. Ад 1954 года (з таго часу як утвораны Гайнаўскі павет) па сённяшні дзень узначальвае акруговую паштова-тэлекамунікацыйную ўстанову ў Гайнаўцы.

Так хуткі прафесіянальны рост Міколы Сулімы тлумачыцца тым, што ён адначасова настойліва вучыўся. Вучыўся ў сярэдняй школе і паспяхова яе закончыў. Вучыўся таксама на адміністрацыйным курсе, а пазней на двухгадовай эканамічнай школе ў Варшаве. Усё гэта без адрыву ад прафесіянальнай працы. Ці было гэта лёгка? Напэўна не. Напэўна праявіў тут шмат настойлівасці і ахвярнасці. А як у працы? Таксама як усюды, ёсць і недахопы, і дасягненні. І гэтых дасягненняў шмат. Аб гэтым сведчыць 6 дыпломаў, якія вісяць у яго ў кабінеце. Аб гэтым сведчыць і той факт, што пошта мае 13 тысяч падпісчыкаў на газеты і часопісы. Як у перадавую акруговую ўстанову дырэкцыя з Альштына накіравала аддзелавую камісію, якая займалася паляпшэннем працы на пошце ў духу VII пленума ЦК ПАРП.



Мікола Суліма мае таксама шмат грамадскай працы. З'яўляецца ён членам камісіі статутова-арганізацыйнай Павятовага камітэта ПАРП, засядацелем павятовага суда, старшынёй бацькоўскага камітэта беларускага ліцэя, сакратаром праўлення аддзела і членам ГП БГКТ.

Магло б выдавацца, што ў Міколы Сулімы мала астаецца часу для сям'і. Але ён умее арганізаваць так працу, што знаходзіць гэты час. А калі гутарка аб сям'і, дык ён і добры муж, і добры бацька.

**М. Хмялеўскі**
**фота Г. Рагазінскі**



 




**Згодна з абяцаннем, якое далі мы ў маі, пачынаем друк кнігі амерыканскага журналіста Уільяма Манчэстэра «Смерць прэзідэнта, лістапад 1963 года». Гэты бестселер зрабіў галавакружную кар'еру. На яго долю выпалі мільённыя тыражы, ён захапіў на літаратурных рынках Захаду самыя бойкія скрыжаванні.**

Пры ўсім адрозненні ў характарах і ладзе жыцця Джона Ф. Кенедзі і Ліндана Б. Джонсана аб'ядноўвала адна вялікая страсць — палітыка. Захапіўшыся ёю, позняй восенню 1963 года прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт адправіліся ў сэрца Тэхаса, за тысячу міль ад Вашынгтона. У іх не было іншага выбару — яны павінны былі ехаць: дэмакратычную партыю ў гэтым штаце раздзіралі найцяжэйшыя ўнутраныя спрэчкі. У смяротнай сутычцы сышліся губернатар Джон Конэлі-малодшы і сенатар Ральф Ярбора. У 1960 годзе Кенедзі і Джонсану ўдалося заваяваць галасы тэхаскіх выбаршчыкаў толькі неймаверным напружаннем сіл. Цяпер, на парозе новых прэзідэнцкіх выбараў, былі ўсе падставы меркаваць, што Тэхас не аддасць ім сваіх галасоў, калі губернатар і сенатар не пойдуць на міравую. Паколькі ні адзін прэзідэнт не захоча проста так страціць галасы 25 выбаршчыкаў, Кенедзі не заставалася нічога іншага, як паспрабаваць уладзіць спрэчку ўнутры дэмакратычнай партыі Тэхаса. Паездка павінна была атрымаць вялікі рэзананс, але для гэтага Конэлі, Ярбора, Джонсану і Кенедзі трэба было прадэманстраваць перад грамадскасцю паўнейшую згоду. Кенедзі не меў да гэтай задумы ніякай ахвоты, мяркуючы, што ўладжваць дробныя спрэчкі пад сілу і Джонсану. Тое, што прыходзілася ехаць яму самому, ён успрыймаў як несправядлівае патрабаванне.

На самай жа справе перад сапраўднай праблемай стаяў Джонсан, палітычная вага якога за адсутнасцю ўлады к гэтаму часу паступова апусцілася да нуля. Кабінеты прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта падзяляла глыбокая бездань. Журналісты паведамлялі пра кожную дробязь з сямейнага жыцця прэзідэнта, затое абыходзілі маўчаннем амаль усё, што датычыла Джонсана і яго сям'і. Пра вядомы прэзідэнцкі самалёт «БПС-1» місіс Джонсан магла толькі марыць, а самому віцэ-прэзідэнту, калі ён жадаў ляцець куды-небудзь, трэба было звяртацца да брыгаднага генерала Годфры Макх'ю, які выконваў абавязкі афіцэра сувязі ВПС пры прэзідэнце. Прычым часам ён атрымліваў нават адмову, што было, зразумела, вельмі ўнізіцельна для такога ўражлівага чалавека, як Джонсан. Да таго ж да Джонсана даходзілі ўпорныя, хоць і беспадстаўныя чуткі аб тым, што яго кандыдатура на пасаду віцэ-прэзідэнта не будзе выстаўлена будучай восенню.

Адзінае, што больш-менш суцяшала прэзідэнта пры думцы аб непрыемнай паездцы ў Тэхас, была гатоўнасць яго жонкі ехаць разам з ім. Гэта з'явілася для яго нечаканасцю. Летам 1963 года ў Бастонскай бальніцы пад кіслароднай маскай праз сорак гадзін пасля нараджэння памёр іх сын Патрык. Бацькі цяжка перажывалі страту, і ўсю восень Джон Кенедзі вельмі апасаўся за стан здароўя сваёй жонкі.

## ПАДРЫХТАВАННІ ДА ПАЕЗДКІ

Многа пазней, пасля страшэннай трагедыі ў Даласе, яна ўспомніла, як аднойчы сказала яму: «Я не змагла б жыць, калі б страціла цябе...». Яна сказала гэта слабым голасам, не маючы сіл уявіць сабе такое. «Я ведаю, я ведаю», — ціха вымавіў Кенедзі, стараючыся супакоіць яе.

Пасля смерці нованароджанага яна хацела застацца з ім і з дзецьмі. Ён жа раіў ёй адправіцца ў замежнае падарожжа. Гэта дапаможа забыць горыч страты. Ён настойваў, і яна згадзілася.

Гэта разлука была перадышкай паміж дзвюма трагедыямі. Яна пісала яму доўгія пісьмы сваім размашыстым почыркам, у якіх гаварыла, як не хапае яго, шкадавала аб тым, што ён не мог у гэты момант апынуцца з ёй у бесклапотнай атмасферы Міжземнамор'я. На яе здзіўленне, паездка апраўдала сябе. Яе сустракалі ўсюды як падарожніцу-магарані, і тыдні, якія яна правяла за мяжой, з'явіліся для яе цудоўнай забавай. 17 кастрычніка яна вярнулася дамоў у значна лепшым настроі, чым чакала. Пасля смерці Патрыка было афіцыяльна аб'яўлена, што яна да студзеня не будзе з'яўляцца на людзях. Аднак пасля таго, як д-р Джон Уолш, яе гінеколаг, канстатаваў поўнае выздараўленне, яна вырашыла, што пачне з'яўляцца на прыёмах і на людзях раней намечанага тэрміну.

«Я хачу ўдзельнічаць у перадвыбарнай барацьбе», — сказала яна прэзідэнту. «Буду суправаджаць цябе, куды б ты ні паехаў». І калі ён спытаў яе, ці паедзе яна разам з ім і Ліндана, яна адкрыла свой чырванаскуры каляндар і на лістках з чысламі 21, 22 і 23 лістапада напісала «Тэхас». Кенедзі быў у захапленні.

Але ён нерваваўся, баючыся, што пазней яна будзе шкадаваць, што паехала. Ён хацеў, каб паездка даставіла ёй такое задавальненне, каб яна суправаджала яго і ў наступных ваяжах. І яшчэ ён хацеў, каб жонка яго выглядала ў Тэхасе асабліва прывабна. Упершыню за час іх сямейнага жыцця ён спытаў яе аб тым, якое ўбранне яна думае надзець, асабліва ў Даласе. — «Там на банкеце, будуць жонкі ўсіх гэтых багатых рэспубліканцаў, у ашаламляльных норкавых накідках і з брыльянтавымі бранзалетамі.

Апраніся зусім проста, пакажы гэтым тэхасцам, што значыць добры густ». Яна наладзіла для яго маленькую дэманстрацыю мод, апранала розныя сукенкі, прыходзіла да яго ў пакой і прасіла яго выказаць сваю думку.

«Калі так важна, каб я ў Даласе выглядала прывабна, — сказала яна, — то чаму трэба ехаць увесь час у адкрытай машыне? Каб вецер пашматаў усё?»

Ён растлумачыў: з'яўленні на публіцы, як і патранаж, — крыніца палітычнай сілы. Цябе павінны бачыць. Трэба праязджаць праз натоўпы. І праязджаць павольна.

Напярэдадні ад'езду ён двойчы размаўляў па тэлефоне з Памелай Тэрнер, прэс-сакратаркай сваёй жонкі, і абмяркоўваў прычоску Жаклін. Памела прапанавала яму ўмацаваць на адкрытай машыне плексігласавы каўпак. Ён адказаў, што ў гэтым няма неабходнасці. «Трэба паказваць сябе гледачам без усякіх бар'ераў, калі няма дажджу», — сказаў ён. Потым ён пусціўся ў разважанні пра жаночыя галаўныя ўборы, адчуў, аднак, што яму не хапае ведання прадмета, і закончыў размову жартаўлівай прапановай: «Пакатайцеся вось з Дэйвам Пауэрсам па Вашынгтоне гадзінку ў адкрытай аўтамашыне, а потым зірніце на вашу прычоску».

Гэта адбылося ў сераду 20 лістапада 1963 года. Роберт Кенедзі ўспамінаў пазней, што ў гэты дзень, як, зрэшты, і ў папярэднія дзесяць дзён, яго брат быў нечым засмучаны.

У аўторак да поўдня ён знаходзіўся проста ў падаўленым стане. Дзеці з маці былі ў Атоку, прапускалі школу, а гэта значыла, што і яму прыйдзецца прапусціць урок французскай мовы. Тое, што ён вучыў французскую, захоўвалася ў найстражэйшай тайне. Прэзідэнт быў перакананы, што перагаворы і дыскусіі з дэ Голем лепш за ўсё весці на яго роднай мове. Настаўніца, якая выкладала французскую мову, давала яму ўрокі ў Белым доме кожны дзень да абеду «Як вы думаеце, колькі часу мне спатрэбіцца, каб адолець яе?» — спытаў ён мадам Жаклін Хірш перад першым урокам.

— «О, я думаю, што год».

Ён прыняў гэта за выклік. «Іду ў заклад, што толькі шэсць месяцаў».

Такім чынам, у той аўторак урок не адбыўся, і прэзідэнт накіраваўся ў свой кабінет, дзе праходзіла адна нарада за адной.

У пакой увайшоў яго сакратар па пытаннях друку П'ер Сэлінджэр. У поўнач П'ер павінен быў вылецець у Ганалулу з Дзінам Раскам і Макджорджам Бандзі для ўдзелу ў ваенным савеце ў сувязі з В'етнамам; затым ён, Раск і пяць іншых членаў кабінета павінны былі накіравацца далей, у Японію. Прэса лічыла, што гутарка ішла больш аб вясёлай паездцы, але гэта было не так. Кенедзі добра памятаў фіяска, якое пацярпеў у гэтай краіне яго папярэднік. Дэманстрацыі левых прымусілі тады Эйзенхауэра адмяніць свой візіт. Сваім афіцыяльным візітам у лютым Кенедзі меў намер аднавіць амерыканскі прэстыж у Японіі. Сэлінджэр павінен быў падрыхтаваць для гэтага ўсё неабходнае.

На сад з ружамі спусціўся змрок, потым стала цёмна, а нарада працягвалася. Місіс Кенедзі была яшчэ ў Атоку. Вярнуліся толькі дзеці.

**(Працяг будзе)**






**ВОСЬ ДЫК «МУХА»**

—Дзе вашы спадарожнікі?

— Я быў скінуты для выканання спецыяльнага задання.

— Дзе вашы спадарожнікі, пытаю я! — стомлена паўтарыў шэф аддзела III-А.

— Тлумачу: я быў скінуты для выканання спецыяльнага задання. Спадзяюся, вам вядома, што разведчыкаў Генеральнага Штаба закідваюць у тыл да вас, як правіла, па адным, калі заданне стратэгічнага характару.

— Калі ласка, падрабязна раскажыце нам пра тыя заданні, якія былі пастаўлены перад вамі камандваннем.

— Мяне здзіўляе ваша манера весці допыт, — сказаў Віхор. — Або вы не верыце ні адзінаму майму слову, або вы не хочаце слухаць мяне ўважліва. Я ўжо сказаў вам, што пачынаючы з трыццатага чэрвеня кожны аўторак, чацвер і суботу я павінен з'яўляцца на кракаўскім рынку, каля гандляроў, якія прадаюць корм для галубоў і пытацца кожнага маладога мужчыну ў чорнай вельветавай курткі і шэрых нагавіцах: «Ці ў вас няма добрага корму для індычак?» Наш чалавек павінен адказаць мне: «Цяпер корм для індычак вельмі дарагі; відаць, вы маеце на прыкмеце індычат...» Гэты чалавек дасць мне яўкі, сувязі і радыстаў.

— Клічка сувязнога?

— Сувязны без клічкі, яго павінен устанавіць пароль і водзыў.

— Пачакайце, ці ж вам не вядома, што яго клічка «Муха»?

— Што, што?!

— Маглі б і пабляднець, — сказаў доўгі. — Хоць некаторыя чырванеюць. Колер не важны, важная рэакцыя.

— На жаль, я не ведаю ніякага Мухі.

— Ну што ж... Гэта лёгка праверыць. Праз паўгадзіны Муха будзе тут.

«Я паступаў правільна, — думаў Віхор, калі яго адвялі ў падвал. — Іншага выйсця ў мяне не было. Вася выратаваўся ў Кіеве, калі ён вывеў сябе з іх ахоўнікамі «на сувязь» у цэнтр кіеўскага рынку. Раз у тыдзень, а то і часцей яны там наладжваюць аблаву. Гэта мой адзіны шанц... Але Муха... Калі ён праваліўся, тады пачынаецца агульны правал. Два дні таму назад я сядзеў на радыёсувязі з ім, ён перадаваў інфармацыю ў цэнтр Барадзіну. Калі яго ўзялі адразу пасля радыёсеанса, няўжо ён зламаўся за тры дні? Муха мяне з твару не ведае. Стоп! Ён ведае толькі, што да яго павінен падыйсці чалавек у сінім касцюме, з шапкай у руцэ і з белай хустачкай у другой... Як мне сябе весці з Мухай, калі гэты чалавек, якога яны мне падсоўваюць, сапраўды Муха? Хоць, не ведаючы сапраўднага Мухі, яны не змогуць падабраць падобны тыпаж. Я ж помню фота. Доўгі, прыгожы хлопец, смуглы, скуласты, з вялікімі брывамі, якія зрасліся ля пераносся...

Віхор не паспеў дадумаць усяго, таму што яго выклікалі на допыт не праз паўгадзіны, як абяцалі, а праз пятнаццаць мінут.

— Вы ведаеце гэтага чалавека? — спытаў шэф, паказваючы вачыма на Муху.

Віхор адразу зразумеў, што перад ім у крэсле Муха.

— Не, гэтага чалавека я не ведаю.

— А вы? — звярнуўся шэф да Мухі.

— Не сустракаліся, — адказаў той. — Па-мойму, я там яго не бачыў.

— Хто да вас павінен быў прыйсці на сувязь і дзе? — спытаў шэф Муху.

— У вёсцы Рыбна, каля касцёла.

« Усё, — спакойна падумаў Віхор, — ён сволач, ён здрадзіў...»

— Як ён павінен быць апрануты?

— Хто?

— Чалавек ад Барадзіна.

«Усё, — зноў падумаў Віхор, — ён разваліўся да канца, калі сказаў ім пра Барадзіна. Ён гад... А калі ён і раней быў з імі?»

— У сінім касцюме, у шапцы і з белай хустачкай у левай руцэ.

Шэф падміргнуў Віхру і сказаў:

— Усё сходзіцца, га? Сіні касцюм, хустачка ў партфелі чысценькая...

— Якога колеру павінны быць пантофлі ў чалавека, які ішоў да вас на сувязь? — спытаў Віхор Муху.

—Пра колер пантофляў мне не паведамілі.

— Ну?

— Не, не паведамілі.

— Вы ў якім чыне? — спытаў Віхор.

— У мяне няма чыну?

— Гэта значыць?

— Мяне закінулі, таму што я быў звязаны з львоўскім падполлем, выконваў іх даручэнні.

— Нешта вы круціце, мілы, — сказаў Віхор. — Я ў разведцы не першы дзень, але, паколькі мне вядома, камандванне цывільных у тыл не закідвае. Гэта па-першае. Па-другое, я не веру вашым дадзеным пра сіні касцюм. Мы заўсёды дакладныя ў апісанні знешняга выгляду разведчыка. Мне, напрыклад, вядома, што чалавек, які будзе са мною на сувязі, павінен быць адзеты ў вельветавую чорную куртку, шэрыя нагавіцы, запраўленыя ў нямецкія боты з халявамі раструбам...

Шэф сказаў:

— Вы ў мінулы раз не ўдакладнілі дэталь з ботамі.

— Па-мойму, я маю справу не з нарыхтоўшчыкамі ад контрразведкі.

Доўгі і шэф пераглянуліся.

— І тым не менш, — сказаў шэф, — ваш сувязны ведае вас з твару?

— Відаць.

— Чаму вы так думаеце? Калі Муха не ведае з твару свайго рэзідэнта, то чаму «вельветавая курткачка» павінен ведаць аб вас?

— Таму што «вельветавая курткачка» — афіцэр Чырвонай Арміі і яму цалкам давярала кіраўніцтва.

Віхор цяпер гуляў на тым, каб пасеяць у гестапаўцах недавер да Мухі.

— Мне таксама давярала кіраўніцтва! — сказаў Муха пакрыўджана. — Мяне сам Барадзін праводзіў!

— Як прозвішча Барадзіна? — спытаў Віхор спакойна і з усмешкай.

— Гэта значыць як прозвішча? Барадзін.

# ТРЫБУНА чытачоў

## Д'ЯБАЛЬСКІЯ ВАРОТЫ

Так называецца дарога, якая ідзе з вёскі Рэдуты, Бельскі павет, даўжынёю паўкіламетра і злучаецца з дарогай Орля—Дубічы.

Нехта добра ў народзе яе так назваў, бо вясною, восенню, у часе дажджоў немагчыма тут праехаць, ці прайсці. Цікава ведаць, чаму ніхто не зацікавіўся гэтай дарогай. Таксама Прэзідыум ГРН у Орлі не хоча ведаць, што ў грамадзе яшчэ існуе такая д'ябальская дарога.

**М. Дубовіч**
Рэдуты

## ТАКСАМА ПАТРЭБНАЕ

Могілкі ў Дубічах вялікія. Ляжаць яны зараз за вёскай. Нярэдка можна было тут сустрэць і свінню на магіле, якая лычом сваім выварочвала зямлю. Цяпер могілкі ў Дубічах Царкоўных гародзяцца плотам. Жыхары Дубіч забавязаліся ад кожнай хаты даць на агароджу па 100 зл.

М. Панфілюк
Дубічы Царкоўныя

## НА ЗЯМЕЛЬНЫХ НЯЎГОДДЗЯХ

На палях вёскі Белкі (Гайнаўскі павет) праводзіцца пасадка лесу. Як сцвярджае намеснік ляснічага Мікола Лук'янюк будзе засаджана лесам каля 50 га зямельных няўгоддзяў, на якіх не хацела расці нават грэчка.

Ярош
Гайнаўскі павет

## АГАРОДНІЦТВА

Ад некалькіх год Васіль Зайкоўскі з Бельска Падляшскага займаецца агародніцтвам. Садзіць у асноўным капусту, памідоры і гуркі.

У гэтым годзе пасадзіў ён больш як 10 тысяч кальвоў капусты і 3 тысячы памідораў. Пабудаваў сабе прыгожую цяпліцу, у якой вырошчвае расаду. Як сам ён сцвярджае, агародніцтва вельмі паплатнае.

**Павал Зінкевіч**
Бельск Падляшскі

„НІВА" — ТВОЙ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ

**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ».**

## ГАДОЎЛЯ ТРУСОЎ

У Бельскім павеце многа сялян настаўілася на гадоўлю трусоў. У вёсцы Плёскі кожны пяты селянін гадуе трусы. Кожны чацвер нашыя сяляне дастаўляюць сваіх звяркоў на пункты скупу ў Бельску. Перадавымі гадоўцамі трусоў у Плёсках з'яўляюцца Іван Прахарук і Уладзімір Дзенісюк. У сваіх фермах яны гадуюць па 70 трусоў.

**Л. Л.**
Плёскі




Дарагое Сэрцайка!

Жыву я на вёсцы. Нядаўна адбыў вайсковую службу. Скончыў толькі пачатковую школу. Паўтара года таму назад пазнаёміўся я з дзяўчынай з суседняй вёскі. Падабалася яна мне і я хацеў нават з ёю жаніцца, але бацькі не пазвалялі, бо хацелі, каб я ажаніўся з багатай або вучонай дзяўчынай. Я перастаў ездзіць да Гані. Нават калі яна прыходзіла да сваёй цёці, якая жыве ў нашай вёсцы, дык я з ёю ўвогуле не гаварыў, а на забаве не ўзяў ні разу гуляць. Пазнаёміўся я з настаўніцай з нашай вёскі. Танцаваў толькі з ёю і адводзіў яе дахаты. Па нейкім часе Соню перанеслі ў другую школу. Яна кожную нядзелю прыходзіла да сваіх бацькоў. Але пачала ад мяне ўцякаць. Гаворыць, што цяпер «ходзіць» яна са сваім кіраўніком школы. На забаве нават не гляне на мяне. Мне вельмі сорамна перад маімі сябрамі і перад сяброўкамі, а найгорш, што гэта ўсё бачыла Ганя. Я ізноў пастанавіў вярнуцца да Гані. Але адным вечарам прыйшоў да яе (яна тады была ў цёці), а яна нават не захацела са мной гаварыць. Што рабіць, падай мне ўказанні, як можна было б падыйсці да Гані і зноў з ёю пагадзіцца.

Міша з Дуброўшчыны

Дарагі Міша!

На жаль, я табе не магу сказаць, як падыйсці цяпер і перапрасіць Ганю, бо думаю, што гэта і так не паможа. Ты пішаш, што табе вельмі сорамна перад сябрамі за тое, што Соня цябе пакінула, а што гаварыць аб Гані, яна ж дзяўчына, як яна сябе адчувала на забаве. Ніводнай ты з іх не кахаеш, таму пачакай на трэцюю, аднак гэтае здарэнне няхай будзе табе навукай на будучыню.

**Сэрцайка**

## МОЛАДЗЬ САКОЛЬШЧЫНЫ

На Сакольшчыне існуе 17 драматычных калектываў, некалькі эстрадных і музычных, а пры ПОМ-е ў Бухалаве ёсць нават нядрэнны аркестр.

Моладзь з 16 гурткоў СВМ прыступіла да конкурсу «Вёска бліжэй тэатра». У Сакольскім павеце існуе 19 клубаў «Руху», 9 клубаў ГС-у і 8 святліц, у якіх моладзь вядзе культурна-асветную працу. Юнакі і дзяўчаты павышаюць сваю адукацыю. І так, у павеце ёсць 16 школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, у якіх пашырае свае веды 405 асоб. Удзельнікаў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ўсіх трох тыпаў налічваецца 706 чалавек. Гэта значыць, што кожны шосты малады чалавек падымае на вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчыя кваліфікацыі.

Хлопцы аб'яднаныя ў СВМ бяруць актыўны ўдзел у сельскагаспадарчых гуртках, а дзяўчаты ў гуртках вясковых гаспадынь.

Павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі ў апошнім часе накіравала да стацыянарных добраахвотніцкіх брыгад працы блізка 100 асоб. Вялікі таксама ўдзел моладзі Сакольшчыны ў грамадскіх чынах. У мінулым годзе моладзь СВМ выканала грамадскай працы на суму амаль 100 тыс. зл.

**Ежы Вежбіцкі**
Саколка

## «ПРАКТЫЧНАЯ ЖАНЧЫНА»



Фрагмент будынку «Практычнай жанчыны».

У Бельску Падляшскім нядаўна адкрыта пункт «Практычнай жанчыны» пры паўшэхнай спажывецкай спулдзельні. Знаходзіцца тут цырульны пункт і клуб. Члены спулдзельні будуць атрымоўваць кулінарныя і іншыя парады.

**З. П.**
Бельск

## У СЕЛЬГАСГУРТКАХ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

Сельскагаспадарчыя гурткі Гайнаўскага павета вясной гэтага года пабагацелі яшчэ на 28 трактараў з цэлымі камплектамі іншых машын. І так, на Гайнаўшчыне вышла ў поле да працы 178 трактараў. Упершыню гурткі ў Скупаве, Вялікіх Тынявічах і Барысаўцы сталі працаваць сваімі трактарамі. Нягледзячы на тое, што вясна ў гэтым годзе даволі дажджлівая, што абцяжвае працу трактарам, аднак у некаторых гуртках сельскагаспадарчыя машыны даволі добра выкарыстоўваюцца. Напрыклад, у Арэшкаве да канца красавіка трыма трактарамі працавалі 429 гадзін пры палявых работах, падчас сяўбы, а ў Вялікіх Пасечніках двума трактарамі 356 гадзін (пры палявых работах 118 гадзін).

У гэтым годзе сельскагаспадарчыя гурткі ў Саках, Курашаве, Клейніках, Навасадах сур'ёзна заангажаваліся ў разліванне па палях аманяковай вады.

**Аляксандр Ражкевіч**
Гайнаўка

## КАБ СМАЧНА ВАРЫЦЬ

Нядаўна ў вёсцы Грабавец, Гайнаўскі павет, закончыўся курс пячэння і варэння. Хадзіла на яго і закончыла 27 слухачоў. Заняткі праводзіў інструктар — Леакадзія Зароўская. Навучанне праводзілася ў хаце грам. Палікарпа Масальскага.

На курс пераважна хадзілі маладыя гаспадыні (дзяўчаты), якія хочуць па-новаму, па-гарадскому пячы і варыць.

На заканчэнне курсу адбыўся экзамен, а пасля яго багаты абед падрыхтаваны слухачамі курсу.

Трэба адзначыць, што ініцыятарам курсаў у Грабаўцы быў гурток вясковых гаспадынь.

**П. М.**
Грабавец

## ПРАЦА І НАВУКА

Хлопцаў пасля 18-ці год да працы і навукі прымае двухгадовы меліярацыйны гуфец працы ў Прушчу-Гданьску. Тры спецыяльнасці можна ў ім здабыць: operator sprzętu budowlanego, betoniarz kafarowy, układacz drenarski.

У гуфцы праходзіцца адначасова вайсковае шкаленне. Можна запісацца ў гданьскую мешканёвую спулдзельню, грошы на ўклад дае прадпрыемства.

Жыць можна ў гасцініцы цукроўні Прушч-Гданьскі вул. Падмейская 17 а.

Скіраванні і бясплатныя білеты выдаюць павятовыя праўленні ЗМС і ЗМВ да 15 чэрвеня.

(вл)

---

Шэф і доўгі зноў пераглянуліся. Віхор рассмяяўся.

— Мілы мой, — сказаў ён — у разведчыка не можа быць адно прозвішча.

— А якое сапраўднае прозвішча палкоўніка Бародзіна? — спытаў шэф Віхра.

Шэсць дзён назад пры бамбардзіроўцы загінуў палкоўнік Валеяў, намеснік Бародзіна. Усе ніткі, якія маглі весці да яго, былі абарваны яго смерцю. Назваць прозвішча са столі было нельга: дзе гарантыя, што ў гестапа не было хоць бы некалькі дакладных разведчыкаў са штаба?

— Прозвішча Бародзіна Валеяў.

— Пачакайце ў прыёмным, — сказаў шэф Мусе.

Муха выйшаў. Шэф падсунуў Віхру сігарэты і запальнічку.

«Трэба, каб гэтыя дні Муха быў са мною, — падумаў Віхор. — Не дай Бог, калі ён гэтыя дні будзе тарчаць ля касцёла. Коля або Аня могуць пайсці да яго на сувязь...»

Добра было б, каб Муха пайшоў са мною на рынак.

— А хто сказаў, што вы пойдзеце на рынак? — спытаў шэф.

— Вас цікавіць сувязны ў вельвеце...

— Разумна. Толькі чаму вы думаеце, што мы не зможам яго ўзяць без вашай дапамогі?

— Вы бывалі на Старым Рынку? — спытаў Віхор.

— Бываў.

— Схадзіце яшчэ раз і палічыце, колькі вы там сустрэнеце людзей у чорным вельвеце. Спадзяюся, вы засылаючы сваіх людзей да нас, адзяваеце іх не як папугаяў, а так, каб яны былі падобны на тысячы акружаючых іх. Ці не так?

— Чаму вы такі шчыры з намі?

— Усё даволі проста, — сказаў Віхор. — Калі я буду маўчаць, мяне ліквідуюць пасля катавання. Калі я пачну гаварыць, я маю шанц памерці без катавання. Калі ж я пацверджу свае паказанні чалавекам з сувязямі і яўкамі, я буду выгадны вам у вашай контргульні. Вось і ўсё. Муха мне патрэбны толькі для таго, каб ён падстрахаваў мяне: раптам ён ужо сустракаўся з гэтым чалавекам у вельвеце?

— У Мухі свае заданні, — сказаў шэф, — ён чакае сваіх гасцей.

«Значыць, ён пільнуе нашых каля касцёла, — зразумеў Віхор. — Усё будзе вырашаць выпадак і толькі выпадак».

— Давайце пагутарым аб вашым жыццёвым шляху, — сказаў шэф. — Мяне цікавіць усё, што адносіцца да вас, пачынаючы з сорак першага года.

Віхор ведаў падполле Днепрапятроўска і Крывога Рога і памятаў прозвішчы тых, хто загінуў у гестапа. Шмат таварышаў Віхра па франтавой разведцы загінула, але засталіся іх клічкі і легенды. Віхор вырашыў звярнуцца да мёртвых сяброў. Сябры, нават мёртвыя, абавязаны выратаваць жывога.

— Як хочаце, — сказаў Віхор. — Я магу расказаць або лепш запісаць на паперы?

— Пішыце, — сказаў шэф. — Вось вам папера і пяро. Мой калега правядзе вас у ціхі пакой, дзе вам ніхто не будзе перашкаджаць.

(Працяг будзе)

# КІНО

**Праграма**
**на 6 — 11.VI.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Tylko we dwoje" (angl.), 6—7. „Sami na wyspie" (jugosł.). 8—9. „Chudy i inni" (polski), 10—11.

**Кляшчэлі**
„Ostatni strzał" (polski), 6—7. „Trema" (USA), 8—9. „Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 10—11.

**Дубіны**
„Strzelby apaczów" (USA), „Nasz wspólny przyjaciel" (radziecki), 7—11.

**Нараўка**
„Barwy walki" (polski), „Trzy światy Guliwera" (angl.), 7—11.

**Чыжы**
„Sprawa Barnaby Kossa" (czeski), „Nikt nie zna prawdy" (radz.), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**
„Szalone wakacje" (jugosł.), „Nigdy nie wrócę" (radz.), 7—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Okno na lunapark" (włoski), „Ranny w lesie" (polski), 7—11.

**Райск**
„Zemsta OAS" (franc.). „Tak" (węgierski), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Miłość surowo wzbroniona" (węgierski), „Szyfry" (polski), 6—9.

**Міхалова**
„Przepustka na ląd" (radz.), 6—7. „Ucieczka w milczenie" (NRD), 8—9. „Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Sędzia dla nieletnich" (NRF), 6—7. „Pod karnawałową maską" (kubański), 8—9. „Bariera" (polski), 10—11.

**Шудзялава**
„Arcylokaj" (franc.), „Biała pani" (czeski), 7—11.

**Сідра**
„Więźniowie nocy" (argentyński), 6—7. „Listek figowy" (węgierski), 8—9. „Sublokator" (polski), 10—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Bokser" (polski), „Poławiacze gąbek" (radz.), 7—11.

**Ліпск**
„Dzwonić Nortside 777" (USA), „Ewakuacja" (radz.), 11—12.

Ніва

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP: Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.711 Bltk M-3

